# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў
і Беларускага таварыства дружбы і культурнай
сувязі з замежнымі краінамі

## ЗМЕСТ



• № 7–8 (43–44) • ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ • 1999 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Міжнародная асацыяцыя беларусістаў,**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,**
**вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт МАБ**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**Іаган Вольфнанг фон Гётэ (да 250-годдзя з дня нараджэння).**
**Матэрыялы пра класіка нямецкай літаратуры**
**чытайце на стар. 3–33.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам МАБ, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 1998 г.): у Беларусі — **120 тысяч рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская і ў перспектыве — англійская, руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы — мяняецца;**
**валютны — 3015000005287**
**у Мінскім абласным упраўленні АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**

*Уладзімір Сакалоўскі (Мінск)*

## ГЁТЭ І БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

**Уладзімір Сакалоўскі** — кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг пра беларуска-нямецкае літаратурнае ўзаемадзеянне

Гётэ — адна з найвялікшых постацей сусветнага літаратурнага працэсу. Гісторыя знаёмства з яго творчасцю ў Беларусі пераканаўча сведчыць, што геній гэтага вялікага мастака ці то праз яго творы, ці то праз адбітак іх у культурным развіцці краю знаходзіў і знаходзіць адлюстраванне ў жыцці і свядомасці шырокіх колаў беларускай грамадскасці.

Пачатак успрыняцця творчасці Гётэ ў Беларусі адносіцца да 60-х гг. XIX ст. і адметны тым, што знаёмства з ёю адбывалася апасродкавана, праз рускую культуру. Да нас прыходзіў замежнік Гётэ ў замежным афармленні.

У XIX ст. на рускую мову былі перакладзены амаль усе буйнейшыя творы паэта і большасць яго лірычных вершаў. Такім чынам, ужо ў канцы XIX ст. у губернскіх ды іншых гарадах Беларусі было магчыма купіць ці атрымаць у бібліятэках амаль усё важнейшае з таго, што напісаў паэт.

Існавалі ў XIX ст. і іншыя формы пранікнення твораў Гётэ на Беларусь — непасрэднае знаёмства з яго тэкстамі ў арыгінале. Так, беларускі пісьменнік А. Абуховіч, які добра ведаў замежныя мовы, чытаў у арыгінале нямецкіх класікаў, пераклаў на родную мову ўрыўкі з трагедыі Гётэ “Фаўст” (1).

Набліжэнню да творчасці Гётэ спрыялі таксама літаратурныя і драматычныя аб’яднанні. Значную работу ў гэтым напрамку ажыццяўляла Мінскае таварыства прыгожых мастацтваў (пазней — Мінскае літаратурна-артыстычнае таварыства). Яно праводзіла “літаратурныя серады”, на якіх чыталіся лекцыі, абмяркоўвалася творчасць класікаў, у тым ліку і Гётэ, рыхтавала пастаноўкі сцэн з опер “Фаўст” і “Вертэр”, арганізоўвала канцэрты, на якіх не раз гучалі песні Ф. Шуберта, Р. Шумана, музыка Л. Бетховена, арыі з вядомых опер Гуно і Маснэ на словы Гётэ (2).

Немалаважную ролю ў гэтым працэсе выконваў і друк. Не раз на старонках тагачасных газет Беларусі “Северо-Западный край”, “Минский курьер”, “Голос провинции”, “Отклики”, “Витебский голос” змяшчаліся водгукі і рэцэнзіі на пастаноўкі “Фаўста” і “Вертэра”, публікацыі пра Гётэ і яго творы. У адной з іх, пад назвай “Саюзы Гёте” (3), раскрываліся веліч і значэнне генія Гётэ ў духоўным жыцці нямецкага народа. Своеасаблівы погляд на трагедыю “Фаўст” выказаны ў лісце пад рубрыкай “Зігзагі”, з якім чытач звярнуўся ў рэдакцыю “Витебского голоса” (4).

У першыя дзесяцігоддзі XX ст. цікавасць да нямецкай літаратуры праяўлялі і беларускія паэты М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Колас і інш. З пазнейшых выказванняў Купалы бачна, што ён быў высокай думкі пра творчасць Гётэ, называў яго адным з найвялікшых паэтаў свету, адчуў на сабе ўплыў яго магутнага таленту. Гэтае ўздзеянне геніяльнага мастака на станаўленне маладога паэта заўважылі і беларускія даследчыкі. Разглядаючы драматычныя паэмы “Адвечная песня” і “Сон на кургане” Я. Купалы, І. Навуменка ў кнізе “Янка Купала” выяўляе ў драме “Фаўст” і драматычнай паэме “Сон на кургане” некаторыя паралелі пры параўнанні вобразаў Чорнага і Мефістофеля, сцэн “На замчышчы” і “Вальпургіева ноч” і прыходзіць да вываду: “Ствараючы свае драматызаваныя паэмы, Купала ішоў ад “высокіх” пачуццяў, ад узораў класічных трагедый, якімі з’яўляюцца, напрыклад, “Гамлет” Шэкспіра і “Фаўст” Гётэ” (5).

Падобнай думкі прытрымліваецца і А. Лойка, які, аналізуючы паэму “Адвечная песня”, піша: “Над заснулым Самам на кургане, такім чынам, сапраўды адбываецца незвычайны шабаш цёмных сіл, і купалаўскі жудасны малюнак іх разгулу даследчыкі нездарма параўноўваюць з Вальпургіевай ноччу з трагедыі Гётэ “Фаўст”, а самога Чорнага — з Мефістофелем” (6). У жанра-стылёвым плане А. Лойка знаходзіць падабенства паміж паэмай Я. Купалы “Яна і я” і паэмай І.-В. Гётэ “Герман і Даратэя”. “Развіваючы традыцыі пастаралі, паэма стала, па сутнасці, у шэраг класічных твораў сусветнай літаратуры, такіх, як “Працы і дні” Гесіода, “Герман і Даратэя” Гётэ” (7).

Такім чынам, разгледжанае дае падставы меркаваць, што творы вялікага майстра ўжо ў канцы XIX – пачатку XX ст. былі вядомы на Беларусі і ўплывалі на павышэнне культурна-эстэтычнага ўзроўню яе насельніцтва. Для пісьменнікаў, дзеячаў культуры яны дапамагалі ўваходзіць у шырокі свет новых тэм, жанраў, стылёвых напрамкаў і літаратурных плыней.

Іншая справа — другая палова 20-х гг. Цяпер набліжэнне вялікага Гётэ да беларускай культуры адбывалася не толькі апасродкавана, але і праз родную мову. Да гэтай справы першымі далучыліся перакладчык Ю. Гаўрук, маладыя паэты Ю. Таўбін, А. Дудар і А. Зарыцкі, вядомы літаратуразнавец Я. Барычэўскі. У часопісах “Полымя”, “Маладняк”, газеце “Літаратура і мастацтва” друкаваліся перакладзеныя імі творы Гётэ (8).

У пачатку 30-х гг. А. Дударом была распачата работа над перакладам “Фаўста” (9). Аднак здзейсніць гэты намер яму не ўдалося. Былі надрукаваны толькі ўрыўкі з драмы “Склеп Аўэрбаха ў Ляйпцыгу” (10), а крыху пазней — “З “Фаўста” (11). Трагедыі Гётэ доўга ў Беларусі яўна не шанцавала. У 40–50-я гг. над яе перакладам працаваў А. Зарыцкі. І толькі ў 60-я В. Сёмуху ўдалося паспяхова справіцца з гэтай складанай і значнай для беларускай культуры задачай.

Аднак далучэнне да творчасці Гётэ адбывалася не толькі праз пераклады. Прыкметную ролю тут ігралі юбілеі класікаў. Такой датай для Гётэ стаў 1932 г. — сотая гадавіна з дня смерці паэта, якую ўшаноўвала ўсё чалавецтва. У святкаваннях, згодна з дырэктывамі партыі, прымалі ўдзел Інстытут літаратуры БАН і пісьменніцкая грамадскасць рэспублікі, якія ў сакавіку 1932 г. правялі ўрачы-

стае пасяджэнне. На ім быў заслуханы даклад Я. Барычэўскага “Гётэ і ягоны “Фаўст” (12). “Полымя рэвалюцыі” змясціла верш “Праметэй” (13) і падборку афарызмаў у перакладзе Я. Барычэўскага (14). “Гётэ і ягоны “Фаўст” Барычэўскага — першая спроба ў Беларусі асэнсавання аднаго з самых значных твораў паэта. Аўтар, грунтоўна прааналізаваўшы трагедыю, дэталёва ахарактарызаваў як сам твор, так і яго галоўных герояў: Фаўста, Мефістофеля, Грэтхен. Аднак тагачасныя таталітарныя абставіны прымусілі даследчыка паказаць Гётэ з пазіцый, навязаных палажэннем Энгельса пра дваісты, супярэчлівы характар творчасці паэта. Да той жа даты быў апублікаваны і ўрывак з працы Ф. Энгельса “Нямецкі сацыялізм у вершах і прозе” (15).

Да пачатку 30-х гг. адносіцца і пераклад В. Вольскага буйнога твора Гётэ — паэмы “Рэйнеке-Ліс” (16), якая выйшла асобным выданнем у 1940 г., аднак не набыла шырокага рэзанансу з прычыны сатырычнага паказу ў ёй феадальных парадкаў, якія многімі рысамі нагадвалі тагачасныя савецкія.





*Пантэон Гётэ і Шылера ў Веймары*

Пад час вайны да твораў Гётэ звярнулася Н. Арсеннева. Яна пераклала нізку вершаў вялікага паэта — “Лясун”, “Марская ціша”, “Начная песня вандроўніка” і інш. (17).

Як бачна, творчасць паэта ў 30–40-я гг. уваходзіла ў культурнае жыццё Беларусі больш аб’ёмна і разнастайна і не толькі на рускай, але і на роднай мове, аднак рэпрэсіі супраць актыўных культурых дзеячаў рэспублікі і вульгарны сацыялагізм нанеслі непапраўную шкоду як далучэнню Гётэ да беларускай культуры, так і інтэрпрэтацыі яго творчасці ў Беларусі.

Найбольш плённым перыядам засваення спадчыны Гётэ ў Беларусі стаў пасляваенны час. У 1949 г. у сувязі з 200-годдзем з дня нараджэння паэта, хоць і сціпла, адзначаецца яго юбілей. Друкуюцца ў перакладах А. Зарыцкага ягоны верш “Праметэй” ды славуты “Маналог Фаўста” з другой часткі трагедыі (18). О. Смалян выступае з артыкулам “Гётэ і яго спадчына” (19), а М. Шагінян — “Вялікі нямецкі паэт-гуманіст Гётэ” (20). І калі Шагінян па–навуковаму ацэньвае ўклад Гётэ ў сусветную культуру, хаця і з пэўнай навязанай часам тэндэнцыйнасцю, то “артыкул” Смаляна не мае нічога агульнага з літаратуразнаўствам — гэта яркі прыклад контрпрапагандысцкай дэмагогіі.

Далейшым крокам у набліжэнні да Гётэ стала выданне С. Ліхадзіеўскім у 1962 г. зборніка “Берасцянка жывых трывог”, куды ўключаны і вершы Гётэ “Рыбак”, “Начная песня вандроўніка”, “Лясны цар”, “Міньён” і інш. А з 1966 г. распачынаецца новы этап у засваенні спадчыны Гётэ. В. Сёмуха публікуе ўрыўкі з “Фаўста” — “Класічная ноч Вальпургіі” (21), “Песня пра блыху”, “Прысвячэнне”, “Селянін пад ліпамі”, “Фульская балада” (22) і рыхтуе да выдання асобнай кнігай першы поўны пераклад “Фаўста” ў дзвюх частках (1976). Другое выданне “Фаўста” адбылося ў 1991 г. у серыі “Скарбы сусветнай літаратуры”, трэцяе — у серыі “Школьная бібліятэка”, прызначанай для масавага чытача – школьнікаў і студэнтаў. Так трагедыя “Фаўст”, адна з самых значных праяў розуму і духу чалавецтва, стала набыткам беларускай літаратуры. Высокую ацэнку перакладу В. Сёмухі даў А. Зарыцкі, які ў прадмове да кнігі пісаў: “Рэдагуючы беларускі тэкст “Фаўста”, я перачытаў лепшыя пераклады гэтага твора на рускую, украінскую і польскую мовы і мушу сказаць, што пераклад В. Сёмухі — і самабытны, і паэтычны. Геніяльны Гётэ з новай сілай загучаў на беларускай мове” (23).

Захоплены паэзіяй Гётэ, В. Сёмуха звяртаецца да класічнага перыяду яго творчасці і цудоўна ўзнаўляе па-беларуску “Рымскія элегіі” паэта (24). Крыху раней Ю. Гаўрук выдае новы зборнік — “Агні ў прасторах”(25), куды ўключана і нізка перакладаў лірычных вершаў Гётэ (больш за 15).

Але найбольш поўна лірыку Гётэ рэпрэзентуе А. Лойка ў зборніку “Спатканне і ростань” (26). Выданне яго з’яўляецца яркім сведчаннем непераходнай цікавасці да творчасці вялікага майстра. Пра гэта добра скажа сам паэт у прадмове да зборніка: “Як лёс прыходзяць да чалавека паэты. І, можа, больш таго: прыходзяць як каханне, захапленне, рамантычная апантанасць. Якраз падобнае пачуццё нахлынула на мяне — нечакана і ўладарна ў той другі прыезд: у ГДР (1974)” (27). “Тады ў Ільменаў адбылося галоўнае — была пераадолена аддаленасць, недатыкальнасць. Тым не менш да сапраўднага набліжэння было яшчэ далёка і ці ўвогуле такое набліжэнне магчыма?!” (28).

Аднак, прааналізаваўшы пераклады са зборніка “Спатканне і ростань”, аўтару гэтых радкоў удалося паказаць (29), што такое набліжэнне не толькі магчыма, але яно і адбылося, і не толькі паэта і перакладчыка А. Лойкі, але і беларускага чытача, беларускай літаратуры, якая ўзбагацілася цудоўнымі пераствараннямі лірычных вершаў, песень, балад.

Асобны аспект гаворкі — ацэнка спадчыны Гётэ беларускімі даследчыкамі, аўтарамі падручнікаў, прадмоў да выданняў твораў. Асабліва тут трэба вылучыць Барыса Міцкевіча, Лявона Баршчэўскага (ён жа і перакладчык), Яўгена Адамовіча.

Такім чынам, успрыняцце творчасці Гётэ ў Беларусі на працягу дзесяцігоддзяў зведала значныя змены, і сёння мы спасцігаем новага Гётэ — геніяльнага мастака слова, вялікага гуманіста і філосафа, які паступова вызваляецца з пракруства ложа тэндэнцыйнай крытыкі, аднабокай інтэрпрэтацыі мінулага.

Як бачна, дыяпазон успрыняцця творчасці Гётэ ў Беларусі пашыраецца колькасна, становіцца больш разнастайным. І ўсё ж геніяльны Гётэ — крыніца вы-

сокай эстэтычнай думкі, невычэрпнага натхнення — пакуль што не заняў адпаведнага яму месца ў культурным жыцці нашага народа, у свядомасці беларускага чытача. Нават прыход яго найбольш геніяльнага твора — трагедыі “Фаўст” далёка не вычэрпвае ўсёй велічы і маштабнасці гэтай манументальнай постаці, якая велічна ўзнялася над Еўропай канца XVIII – пачатку XIX ст.


(1) История белорусской дооктябрьской литературы. Минск, 1977. С. 373
(2) Сакалоўскі У. Пара станаўлення. Мн., 1986. С. 85–86
(3) Минский курьер. 1908. 6 марта.
(4) Витебский голос. 1906. 13 окт.
(5) Навуменка І. Янка Купала: Духоўны воблік героя. Мн., 1967. С. 65.
(6) Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн. 1980. Ч. 2. С. 154.
(7) Тамсама. С. 179.


Іаган Вольфганг фон Гётэ 250



*Веймар — горад Гётэ*


(8) Полымя рэвалюцыі. 1932. № 1. С. 132–133.
(9) Кніга — масам. 1932. № 4–5. С. 92.
(10) Літ. і мастацтва. 1934. № 55. С. 2–3.
(11) Полымя рэвалюцыі. 1935. № 10. С. 92–100.
(12) Барычэўскі А. Гётэ і ягоны Фаўст: Даклад на ўрачыстым пасяджэнні Інстытута літаратуры і мастацтва Беларускай акадэміі навук з Беларускай федэрацыяй Аб’яднанняў савецкіх пісьменнікаў 22 сак. 1932 г. // Полымя рэвалюцыі. 1932. № 1. С. 138–153.
(13) Полымя рэвалюцыі. 1932. № 1. С. 132–133.
(14) Тамсама. С. 134–137.
(15) Літ. і мастацтва. 1932. 28 сак.
(16) Гётэ І. Рейнеке-Ліс: Паэма / Пер. з ням. В. Вольскага. Мн., 1940.
(17) Бел. газэта. 1942. 29 сак.
(18) Полымя. 1949. № 9. С. 106–107; Літ. і мастацтва. 1949. 27 жн.
(19) Літ. і мастацтва. 1949. 27 жн.
(20) Звязда. 1949. 28 жн.; Сов. Белоруссия. 1949. 28 жн.
(21) Літ. і мастацтва. 1969. 20 снеж.
(22) Літ. і мастацтва. 1972. 14 крас.
(23) Гётэ Ё.-В. Фаўст. Мн., 1976. С. 11.
(24) Прыдзі, стваральны дух. Мн., 1981, С. 29–50; Далягляды. Мн., 1983. С. 228–242.
(25) Агні ў прасторах:. Выбраныя пераклады / Пер. з ням. Ю. Гаўрука. Мн., 1975. С. 58–61.
(26) Гётэ Ё.-В. Спатканне і ростань: Выбраная лірыка / Пер. з ням. А. Лойкі. Мн., 1981.
(27) Лойка А. Набліжэнне // Гётэ Ё.-В. Спатканне і ростань. С. 3
(28) Тамсама. С. 4–5
(29) Сакалоўскі У. Набліжэнне / Рэц. на зб.: Гётэ Ё.-В. Спатканне і ростань // Літ. і мастацтва. 1982. 10 верас.

*Ева Лявонава (Мінск)*

# “ІСЦІ ПА СЦЕЖКАХ ГЁТЭ...”

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Аўтар кнігі “Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX – XX стагоддзяў” і іншых прац.

Іаган Вольфганг Гётэ пры ўсім жаданні не можа быць аднесены да тых замежных творцаў, якіх у нас на Беларусі згадваюць адно толькі ў сувязі з чарговым юбілеем. Традыцыя беларускай рэцэпцыі Гётэ даўняя і трывалая. Я ж дазволю сабе спыніцца толькі на некаторых прыкладах дастаткова грунтоўнага ўкаранення Гётэ ў беларускую літаратуру, у беларускую мастацкую і культурную свядомасць XX ст., ужо ў пачатку якога, паводле слушнага меркавання аўтараў “Гісторыі беларускага тэатра”, у Беларусі “шмат паўней і шырэй, чым у папярэднія гады, прадстаўляліся творы класікаў сусветнай літаратуры і драматургіі” (1). Бясспрэчна, сярод апошніх заўважнае месца займалі і творы Гётэ.

Неаднойчы згадвае асобу, творчасць Гётэ М. Багдановіч. Да прыкладу, у артыкуле, прысвечаным М. Ламаносаву (“Паэзія геніяльнага вучонага”, 1911), сцвярджаючы, што “і паэзія, і навука маюць, у рэшце рэшт, адну і тую ж агульную мэту: задавальненне пазнавальнай патрэбы чалавека”, толькі дасягаецца гэтая мэта рознымі шляхамі, беларускі пісьменнік гаворыць пра выпадкі, калі навука і паэзія складаюць адно цэлае, маюць аднаго творцу. Менавіта такім творцам, лічыў М. Багдановіч, і быў Гётэ — “вялікі і буйны вучоны, паміж паэтычнымі адкрыццямі і яго навуковым светабачаннем існуе бясспрэчная сувязь” (2). Апрача таго, маючы на ўвазе гучныя маніфесты тагачасных заходнееўрапейскіх мастакоў слова, у прыватнасці — французскую школу “навуковай паэзіі”, заснаваную і тэарэтычна абгрунтаваную Рэне Гілем (1862–1925), вядомым і ў Расіі праз ягонае супрацоўніцтва з рускім сімвалісцкім выданнем “Весы”, беларускі паэт перасцерагае ад паспешлівых вызначэнняў такіх эстэтычных платформаў як сапраўдных, безумоўных навацый, спасылаючыся на філасофска-эстэтычныя погляды Гётэ і на яго мастацкую практыку, у якой беларускі паэт якраз і бачыў насамрэч “навуковую паэзію”.

У артыкуле “Іван Франко” (1916) М. Багдановіч, высока ацэньваючы талент украінскага пісьменніка, ставіць у заслугу апошняму і яго пераклады замежных аўтараў, з вялікім Гётэ ўключна (3).

Шматстайныя праявы глыбокай цікавасці да Гётэ змяшчае ў сабе спадчына Уладзіміра Караткевіча. Зрэшты, на прысутнасць іншанацыянальнай літаратурнай традыцыі ў творах У. Караткевіча звярталі ўвагу ці не ўсе даследчыкі яго творчасці. А. Мальдзіс назваў пісьменніка “дасведчаным, вялікім кніжнікам” (4). А. Верабей меў усе падставы сцвярджаць: “Характэрнай асаблівасцю паэзіі У. Караткевіча [дадамо — і не толькі паэзіі. — *Е. Л.*] з’яўляецца яе сувязь з кніжнай, літаратурнай традыцыяй. Як у ранніх, так і ў пазнейшых вершах сустракаюцца рэмінісцэнцыі, матывы, вобразы і нават ідэі прадстаўнікоў літаратуры і культуры самых розных часоў і народаў” (5). У сувязі з творчасцю У. Ка-

раткевіча даследчыкі называюць імёны Гераніма Босха, Пітэра Брэйгеля Старэйшага і іншых мастакоў, пісьменнікаў Федэрыка Гарсія Лоркі, Артура Конан Дойла, Вальтэра Скота, Генрыка Сянкевіча, Алоіза Ірасека, Франсуа Рабле, Дантэ, Шарля дэ Кастэра, Рамэна Ралана, — так ці іначай іх спадчына адгукнулася ў творах У. Караткевіча, паўплывала на яго мастацкую сістэму. Імя Гётэ, аднак, не згадваецца ў гэтым сэнсе. Між тым праблема рэцэпцыі творчых здабыткаў вялікага немца і ў паэзіі і ў прозе беларускага пісьменніка заслугоўвае, як нам падаецца, пільнай увагі літаратуразнаўцаў.

Вядома, што У. Караткевіч быў надзвычай усцешаны беларускім увасабленнем гётэўскага "Фаўста", здзейсненым В. Сёмухам, і ўхваліў гэты пераклад у эсэ "І наш Фаўст", упершыню апублікаваным у 1978 г. у № 5 часопіса "Маладосць". "Пераклад "Фаўста" рэч, бадай, немагчыма складаная, — пісаў аўтар. — Ісці па сцежках Гётэ — як на злом галавы. Дыхаць жыватворным, але высокім паветрам яго горных вяршынь можа не ўсякі.

І яшчэ адна падстава для трывогі. Я рызыкну сказаць, што пераклад такой рэчы — адзнака сталасці літаратуры, адзнака таго,




Іаган Вольфганг фон Гётэ 250

*Вокладка беларускага выдання "Фаўста" Гётэ ў перакладзе В. Сёмухі (1976)*

што плынь яе нястрымная". А далей — канстатацыя: "Цяжкая праца выканана дасканала…" (6). Дарэчы, падкрэслю: В. Сёмуха тады стаўся ўжо перакладчыкам не аднаго "Фаўста", а, без перабольшання, цэлай Фаўстыяны; варта ўспомніць хоць бы Германа Гесэ, Томаса Мана ды іншых аўтараў, са старонак твораў якіх — у асобах тых ці іншых персанажаў — паўстае вечны літаратурны вандроўнік — Фаўст. Што да У. Караткевіча, дык аб тым, як многа значылі для яго творы Гётэ, як многа значыў для яго беларускі Гётэ, той жа "Фаўст", сведчыць, зноў жа, сам пісьменнік: ён чытаў (яшчэ ў пачатку 60-х) і першы варыянт перакладу трагедыі, і наступныя, і, нарэшце, апошні — рэч "скончаную і адшліфаваную", у якой "перакладчык дасягнуў дзіўнага: з намі гаворыць беларускі Германец, але адначасова гэта гаворыць Беларус, што выказвае думкі Гётэ, як выказваў бы іх ён, але па-беларуску" (7). Варта заўважыць, што, паводле ўласнага прызнання, У. Караткевіч юнаком марыў "калі-небудзь узяцца за яго [пераклад "Фаўста". — *Е. Л.*] самому" (8).

Ёсць падставы гаварыць і пра заўважны ўплыў Гётэ на творчасць самога У. Караткевіча, прычым на розныя яе складовыя — ад філасофіі да паэтыкі. Ча-

сам эстэтычнае падабенства напісанага Гётэ і Караткевічам проста ўражвае. Звернемся, напрыклад, да знакамітага верша Гётэ “Ці знаеш край…” (“Kennst du das Land…”), перакладзенага на беларускую мову С. Ліхадзіеўскім:

Ці знаеш край, дзе стаў лімон цвісці,
Палаюць апельсіны у лісці…
Дзе мяккі ветрык з-пад нябёс імчыць,
Высокі лаўр і ціхі мірт стаіць,
Ці знаеш ты?
Туды, туды
Хадзем з табой, мой любы, назаўжды! (9)

Як на наш погляд, топас менавіта гэтага верша Гётэ прысутнічае ў вершы У. Караткевіча “Старажытны беларус”, напісаным у 1984 г. і ў тым жа годзе апублікаваным у кнізе “Быў. Ёсць. Буду”. Спашлемся на тыя строфы, дзе актуалізуюцца менавіта матывы Гётэ:

…Маўчанне. Кнігу ў скуры рудай
Закрыў, бо перад ім — сцяна.
І сэнс жыцця, і хто мы, людзі,
Па кнігах не спазнаць да дна.
І усплываюць за парогам
Краін далёкіх міражы.
Як сэрца цягнецца ў дарогу,
Як прагнуць ногі зем чужых.
Туды! Туды! З няпэўнай картай.
Туды, каб рассудзіць спаўна,
Чым дрэнны чалавек іварты,
І з родным краем параўнаць…

Эстэтычная пераемнасць засведчылася тут нават у фармальна-відавочных, вербальна рэалізаваных адсылках да Гётэ: “Туды, туды…” у нямецкага паэта (у арыгінале “dahin, dahin…”), у агульных вобразах — сімвалах зямлі запаветнай: “край, дзе… Высокі лаўр…” у Гётэ і “Пад лаўрамі чужынскі рай…” у Караткевіча. Ды і дастаткова алюзійных, зашыфраваных, так бы мовіць, перазоваў з Гётэ ў паэтыцы У. Караткевіча. У той жа час трансфармуецца пафас твора і праз назву верша, і праз змест у цэлым прыўносіцца беларуская ментальнасць, рэпрэзентуецца лёс беларускага народа і яго канкрэтных аддаленых у часе прадстаўнікоў, гістарычных асоб, шукальнікаў “ісціны на сей зямлі”:

Спічасты строй гатычных вежаў.
Ў дубах старэнькая царква…
“Як чалавеку жыць належыць,
Скажы мне, мудрасці сава?”
На хаты ў прывідах вішнёвых
Глядзіць, і іх не бачыць ён…
“Хоць ты адкрый мне тое Слова,
Святы Настаўніка закон!

Адкрый не верай ці бязвер’ем,
Не так, як Мойзасу калісь,
Як зведаць Словам, Весам, Мерай,
Што Ісціна на сей зямлі?
Ў чым чалавечыя адзнакі,
За кім ісці, каго маліць,
Ці багахульстваваць, ці плакаць,
Ці кнігі на стагнах паліць? (10)

Трэба сказаць, што змест і пафас верша У. Караткевіча вымушаюць згадаць гісторыю яшчэ адной беларускай — а менавіта купалаўскай — адаптацыі верша Гётэ. Даследчыкі не без падстаў лічаць, што верш Юзафа Ігнацага Крашэўскага (1812–1887) “Да ***” (“Znasz li ten kraj…”), перакладзены Я. Купалам, паводле аўтографа, у 1919 г. і апублікаваны ў 1920-м, узыходзіць, у сваю чаргу, якраз да ўжо цытаванага ў перакладзе С. Ліхадзіеўскага верша Гётэ “Ці знаеш край…”. Звернемся да купалаўскага перакладу:




Іаган Вольфганг фон Гётэ 250

*Вокладка беларускага выдання Гётэ ў серыі “Скарбы сусветнай літаратуры” (1991)*

Ці ты знаеш старонку,
Край магілаў, курганаў,
Дзе па небе ўдагонку
Ходзяць хмары, туманы;

Дзе крывёю, слязамі
Рэчка рэчаньку гоніць;
Поле ўкрыта касцямі,
Лес магільна гамоніць?

Край бяды, край напасцяў
Вабіць люд свой бадзячы;
Ён мілей нам ад шчасця,
Мы з ім, ён з намі плача. (11)

У вершы Ю.-І. Крашэўскага і, адпаведна, у купалаўскім перакладзе змененымі аказаліся, згодна з задумай польскага творцы, не толькі форма гётэўскага верша, але і яго змест, і яго пафас; не сонечна-цёплы край лаўраў і лімонаў, а пах-

мурна-тумановая старонка магіл і курганаў “мілей ад шчасця” лірычнаму герою верша Крашэўскага, гэтаксама, як краса сваёй “зямліцы”, “сваёй званіцы” мілей за “чужынскі рай” герою верша Караткевіча. Уражанне такое, што твор Караткевіча паяднаў, па-мастацку сінтэзаваў паэтыку ўласна гётэўскага верша і філасофію, настрой, пафас інтэрпрэтацыі гэтага верша Крашэўскім.

Яшчэ адзін верш Караткевіча, арыенцірам у стварэнні якога мог у пэўнай ступені паслужыць твор Гётэ, яго “Фаўст”, і найперш — вобраз Мефістофеля, — гэта верш “Дэман”. Што “Дэман” быў у нейкай меры генераваны трагедыяй Гётэ, можна сцвярджаць з вялікай доляй верагоднасці. Верш быў апублікаваны ў 1984 г., але напісаны, паводле аўтографа, у сакавіку 1962 г., г. зн. прыкладна тады, калі У. Караткевіч пазнаёміўся з першым варыянтам перакладу “Фаўста” на беларускую мову В. Сёмухі. Зразумела, магчыма і іншае: верш беларускага паэта — не свядомае, так бы мовіць, “цытаванне” аднаго з найбліскучых, найскладанейшых вобразаў трагедыі Гётэ, а плён таго, што Ю. Лотман назваў “семіятычнай памяццю культуры”, а Дз. Ліхачоў — “канцэптасферай”. Няма сумнення, што так ці іначай гётэўскі вобраз Мефістофеля ўдзельнічаў у задуме У. Караткевіча. Дэман і гётэўскі Мефістофель надзвычай блізкія па сваёй мастацкай структуры: абодва — багаборцы, абодва — істоты дваістыя. Вядома, што менавіта Мефістофель прыцягваў увагу Караткевіча — найбольш з усіх персанажаў трагедыі Гётэ, менавіта ён бачыўся Караткевічу найвялікшай удачай перакладчыка Сёмухі. І, нарэшце, менавіта як істоту дваістую, цынічную, нахабную, злосную, але, адначасна, і дзёрзка-вясёлую, нават дабрачынную — найперш сваімі спакушэннямі-правакацыямі на пошук, на рух, акрэсліць Караткевіч гётэўскага Мефістофеля у эсэ “І наш “Фаўст”: “Уладар дзіўнай, але цалкам натуральнай дыялектыкі: жыць — каб адмаўляць. Частка цемры, якая спарадзіла святло… ён — гэта скепсіс, гэта адмаўленне старога, пробны камень чалавечай думкі і стымулятар чалавечага поступу, а значыць, неабходная частка нас саміх” (12).

Канцэптуальна важна ў святле нашай гаворкі тое, што дэман У. Караткевіча якраз і з’яўляецца двайнікам чалавека, “неабходнай часткай нас саміх”:

Позняю ноччу з бяссілымі зорамі стылымі,
Калі ў глыбокіх дварах паміраюць вятры, —
Сеў на акно чалавек з кажановымі крыламі,
Месяц і зоры гусцеючым ценем закрыў.
Складваў і знову выпростваў ён крылы маўклівыя,
З іх вандраванняў міжзорных счышчаючы пыл.
Крылы, як веер былі, як паніклыя косы алівы
І як пагаслых ад стомы камет пацьмянелых снапы.
— Хто ты? — спытаў у яго.
— А нашто табе ведаць аб гэтым?
— Што ты?
— Я кветка і зорка. Пагоня і бег.
— Зараз адтуль?
— Я… забыўся на тыя планеты,
Дзе абпякаў мае крылы агонь, дзе завейваў іх снег.

— Што ты пабачыў?
— Тупых катаклізмаў раскаты,
Зло і пяшчоту, пажар і спакойны заліў, —
Ўсё гэта можна пабачыць на гэтай праклятай,
На блаславёнай, на сонечна-змрочнай зямлі… (13)

Без сумнення, У. Караткевіч — далёка не адзіны беларускі мастак слова, які зведаў уплыў на сваю творчасць, на сваю асобу гётэўскага генія. Асабліва адчувальная прысутнасць Гётэ ў беларускай літаратуры, культуры ў апошнія дзесяцігоддзі. З’яўляюцца новыя пераклады яго твораў, ён перавыдаецца, вывучаецца ў ВНУ і сярэдняй агульнаадукацыйнай школе, яму прысвячаюцца новыя даследаванні. Меў рацыю нямецкі вучоны Ганс Ауэрсвальд, калі ў дыялогу з А. Лойкам, адным з перастваральнікаў Гётэ на беларускую мову, канстатаваў: “Думаю, што ў беларусаў ёсць зараз павышаная цікавасць да Германіі ўвогуле і да яе паэзіі ў прыватнасці”, — як меў рацыю і А. Лойка, калі гэтую з’яву ў Беларусі патлумачыў наступным чынам: “…без Ё.-В. Гётэ і Ф. Шылера нельга ж адчуваць сябе ў паэзіі самазацверджаным. Таксама ж думаць, што беларуская паэзія можа мець будучае без вяртання да Гётэ, Шылера, а цераз іх у Адраджэнне, у антычнасць — гэта самагубства” (14).

Дадамо: Гётэ актуальны для нас яшчэ і таму, што, як і ён, мы жывем на зломе эпох, на скрыжаванні не толькі стагоддзяў, але і тысячагоддзяў, у часе хваравіта-крызісным, ускаламучаным, калі асабліва моцна адчуваецца патрэба ў апірышчы, ва ўпарадкаванні свядомасці, уяўленняў пра мінулае і будучае. У святле творчасці Гётэ, найперш ягонага “Фаўста”, увогуле дзіўным чынам прачытваецца лёс беларускага народа, яго гістарычныя і сучасныя трагедыі, з Чарнобыльскай катастрофай уключна. Усё выразней і актульнасць разваг Гётэ пра “сусветную літаратуру”. Следам за Вяч. Іванавым мы маглі б зазначыць: “Сапраўды можа падацца, што, падводзячы з Шылерам рахункі свайму вялікаму стагоддзю, Гётэ, сам таго не ведаючы, узіраўся скрозь імглу надыходзячага новага стагоддзя ў далёкія праблемы нашых дзён. Сапраўды, аглядаючы ўсю велізарную дзейнасць гэтага па-звышчалавечаму ўмяшчальнага жыцця, мы бачым, што сілкуючы і пераўтвараючы сучаснасць, ён разам з тым ставіў пытанні, сам сэнс якіх сучаснасць яшчэ не цалкам разумела, і часткова ўжо даваў адказы на яшчэ не пастаўленыя часам пытанні”, бо “з самага пачатку не час валодаў ім, а ён часам” (15).

---

(1) Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1. С. 462.
(2) Багдановіч М. Поўны зб. тв.: У 3 т. Мн., 1993. Т. 2. С. 196.
(3) Тамсама. С. 298.
(4) Мальдзіс А. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: Партрэт пісьменніка і чалавека. Мн., 1990. С. 222.
(5) Верабей А. Абуджаная памяць: Нарыс жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча. Мн., 1997. С. 43.
(6) Караткевіч У. Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1991. Т. 8. Кн. 2. С. 407.
(7) Тамсама. С. 409.
(8) Тамсама. С. 407.
(9) Ліхадзіеўскі С. Берасцянка жывых трывог. Мн., 1962. С. 140.

(10) Караткевіч У. Зб. тв. Т. 1. С. 264, 263.
(11) Купала Я. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1974. Т. 4. С. 412.
(12) Караткевіч У. Зб. тв. Т. 8. Кн. 2. С. 410–411.
(13) Тамсама. С. 293–294.
(14) На шляху да абагульненняў: Дыялог Г. Ауэрсвальда і А. Лойкі // Шылер Ф. Улада песняспеву. Мн.; Ена, 1997. С. 100.
(15) Иванов Вяч. Гете на рубеже двух столетий // Иванов Вяч. Родное и вселенское. М., 1994. С. 240.

***Валянціна Выхота (Мінск)***

## “НОВАЯ ЗЯМЛЯ” ЯКУБА КОЛАСА: ТЫПАЛАГІЧНАЕ СУПАСТАЎЛЕННЕ З ПАЭЗІЯЙ ГЁТЭ

**Валянціна Выхота** — кандыдат філалагічных навук. Аўтар прац па беларускаму, нямецкаму мовазнаўству.

Маё даследаванне паэмы Якуба Коласа “Новая зямля” пачыналася з пошуку слоў, якія маюць агульную крыніцу паходжання з адпаведнымі нямецкімі словамі, што ўжыты у творах нямецкіх паэтаў. Але выказванні двух вялікіх паэтаў — Якуба Коласа і Іагана Вольфганга Гётэ — аб слове натхнілі мяне на пошукі разгадак тых думак, пачуццяў, меркаванняў, якія захаваны ў сэнсе слоў, — і даследаванне тады пайшло ў кірунку тыпалагічных супастаўленняў.

Што ж казалі Якуб Колас і Іаган Вольфганг Гётэ аб слове?

Слова — радасць, слова — чары,
Вобраз вечна юных вёсен:
Ёсць ты ўсюды: ў сонцы, ў хмары,
Ты глядзіш праз неба просінь.
Лашчыш слух мой, слова-ззянне,
Атуляеш сэрца ласкай,
Ноч і вечар, дзень, світанне
Абняло ты, слова-краска. (1)

Вечнасць слова апявае і І.-В. Гётэ:

Wisset nur, daß Dichterworte
Um des Paradieses Pforte
Immer leise klopfend schweben,
Sich erbittend ew’ges Leben. (2)

У Я. Коласа слова глядзіць “праз неба просінь”. У Гётэ словы паэта ціха лунаюць каля форткі раю, вымольваючы вечнае жыццё. У іншым вершы паэт кажа, што багатае, духоўна адкрытае слова служыць вечнасці (прыгадаем у Я. Коласа: слова — “Вобраз вечна юных вёсен”).

Ein geistreich-aufgeschloßnes Wort
Wirkt auf die Ewigkeit. (3)

Паэму “Новая зямля” чытаеш немаведама каторы раз. І нечакана схопліваеш новае адценне значэння слова. Так здарылася са словам “жарт”, аб чым гутарка будзе ісці далей. А то заўважыш, што адны і тыя ж думкі абодва паэты выказалі ў адным і тым жа ўзросце і тымі ж словамі. Ці знаходзіш новае супастаўленне паэтычных малюнкаў.

Словы, якія маюць агульную крыніцу паходжання, у паэме і ў творах Гётэ могуць мець прамое значэнне. Напрыклад:

Хоць і не шляхецкага ён роду,
Але прытрымліваў іх моду,
І гаспадыняй меў дваранку,
Вельмі панадную шляхцянку. (4)

Welche von y Phorkys’
Töchtern nur bist du?
Denn ich vergleiche dich
Diesem Geschlechte. (5)

У абодвух урыўках, як бачым, гутарка ідзе аб шляхецкім родзе жанчын — жонкі Язэпа з Караліны і Галены, жонкі цара Менелая.

Гэтыя словы могуць уваходзіць у мастацкі вобраз, малюнак:

Іаган Вольфганг фон Гётэ 250



*Ілюстрацыя Арлена Кашкурэвіча да “Фаўста” Гётэ*

А дзень гарыць, а дзень палае.
Ўсплывае хмарка і другая
Над сіне-дымным небасхілам,
У задуменні смутна-мілым
З нябёс блакітных пазіраюць,
Як бы дарогу выбіраюць. [258]

Ein sanfter Wind vom blauen Himmel weht. (6)

Хмаркі пазіраюць на летнюю касавіцу ў паэме, а ва ўспамінах Міньён пяшчотны ветрык вее з блакітнага неба.

Генетычна роднасныя словы ў абодвух паэтаў могуць мець і пераноснае значэнне. Ксавэры і Міхал ідуць на хаўтуры ляснічага. Кожны заняты сваімі думкамі. Невядома, хто заступіць месца нябожчыка.

Назначаць гэтакага ката,
Тады запахне свая хата.
Набыць дабра не надта лёгка,

Яно, як шклечка тое, крохка:
Чуць да яго не так кранешся,
І з чарапкамі застанешся. (77)

Супаставім урывак з трагедыі Гётэ “Фаўст”. У рэмарцы гаворыцца, што малпаняты гулялі з вялізнай куляй. Адно з іх выкочвае яе на пярэдні план сцэны. Тут умешваецца самец, як называе яго ў сваім перакладзе Васіль Сёмуха.

Das ist die Welt:
Sie steigt und fällt
Und rollt beständig;
Sie klingt wie Glas —
Wie bald bricht das!
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Mein lieber Sohn,
Halt dich davon!
Du mußt sterben!
Sie ist aus Ton.
Es gibt Scherben. (7)

Гэтая куля — свет, звініць, як шкло, і б’ецца. Далей самец перасцерагае сына, што куля з гліны і ў чарапках ён загіне.

Такі ж філасофскі сэнс разгадваецца і ва ўрыўку з верша Ф. Шылера, найбліжэйшага да Гётэ чалавека, знітаванага з ім аднымі ідэямі:

Der Kloben, woran Zeus den Ring
Der Welt, die sonst in Scherben ging,
Vorsichtig aufgehangen. (8)

Шылер называе вялікім духам той крук, на які Зеўс асцярожна павесіў абруч, што трымае свет. Інакш свет бы разбіўся на друзачкі.

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы не падае выразу “застацца з чарапкамі” (9). У нямецкай жа мове ёсць фразеалагізм “in Scherben gehen” (GDRW) (10), што адпавядае выразу “разбіцца на друзачкі” (ушчэнт).

Як бачым, усе тры паэты ўжываюць словы “чарапкі” і “Scherben” у пераносным сэнсе.

У паэме “Новая зямля” і ў вершах І.-В. Гётэ ёсць словы, якія маюць нейкія адценні значэнняў. Звернемся да слоў “жарт” і “Scherz”.

Ідуць дзяўчаты, маладзіцы
І жарты строяць, як блазніцы. [266]

А вось радкі з трагедыі “Фаўст”, сцэна: Сон у Вальпургіеву ноч, альбо Залатое вяселле Аберона і Тытаніі:

Seht, wie sie in gedrängter Schar
Naiv zusammen scherzen!
Am Ende sagen sie noch gar,
Sie hätten gute Herzen. (11)

Жарты дзяўчат і маладзіц бесклапотныя, вясёлыя. Жарты гурмы на вяселлі нібы толькі наіўныя:

ГЕНІНГС

Глядзі, падцкоўваюцца там
Наіўна і зласліва,
А ў рэшце рэшт заявяць нам,
Што сэрца ў іх чулліва. (12)

Прыгадаем радкі:

А гэты ветрык дураслівы
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ў садку жартуе з верабінай,
Як голец-хлопец з той дзяўчынай. [17]

У прыведзеным вышэй урыўку з паэмы жарт, на мой погляд, нявінны. Але далей жарты набываюць фрывольнае адценне:

То там, то тут пачуеш жарты,
І смех вясёлы, піск дзявочы,
Бо хто ж крануць іх не ахвочы? [263]

Іаган Вольфганг фон Гётэ 250



*Ілюстрацыя Арлена Кашкурэвіча да "Фаўста" Гётэ*

Праўда, і дзяўчаты хлопцаў востра падсякаюць, але і "не робяць жартам перашкоды" [263]. Празрысты намёк на фрывольнасць бачым у наступных радках паэмы:

— Давай, давай, дожджык, накропу.
Сюды, дзяўчаткі, лезьце ў копу:
Дасць бог, на нашым гэтым грудзе
На другі год касцоў прыбудзе! [263]

Такім чынам, у гэтым кантэксце слова "жарт" у сваім значэнні нясе і адценне фрывольнасці. У вершы Гётэ "Здрада мальнічыхі" ў слова "Scherz" укладзена тое ж адценне:

Ach wohl! Er kommt vom warmen Bette,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Er wird den Scherz nicht leich erneuen,
Er drückte schnell sich aus dem Haus. (13)

Адценне фрывольнасці ў значэнні слова “Scherz” назіраецца ў баладзе Гётэ “Бог і баядэра”:

Was du willst, das sollst du haben,
Ruhe, Freude oder Scherz.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Und so zu des Lagers vergnüglicher Feier
Bereiten den dunkeln behaglichen Schleier
Die nächtlichen Stunden, das schöne Gespinst. (14)

Набыццё зямлі займаюць думкі абодвух герояў — маладога лесніка Міхала і доктара Фаўста.

Даўно ўжо бацька жыў думою
Разжыцца ўласнаю зямлёю. [28]

На новым грунце сесці стала,
І чым жыла душа Міхала. [35]

Усё зведаў на сваіх двух вяках жыцця доктар Фаўст, але не можа сказаць імгненню, каб яно спынілася, бо ён ужо дасягнуў свайго шчасця. Нарэшце ён дадумаўся пакінуць людзям die neuste Erde, якую адваюе ў мора. Фаўст звяртаецца да “рабочых”, каб далі яму паглядзець на тое, што ён прыдумаў:

Laßt glücklicht schauen, was ich kühn ersann,
Ergreift das Werzeug, Schaufel rührt und Spaten! (15)

Але абодва героі не ўбачылі вынікаў свайго старання. Міхал памірае ў пакутах, не ўбачыўшы новай зямлі (16). Асலеплены Турботай Фаўст не бачыць падману Мефістофеля. Думае, што гэта рабочыя бразгаюць шуфлямі і рыдлёўкамі, а на самой справе гэта лемуры капаюць дол ягоным марам зрабіць народ шчаслівым. Ён пакідае жыццё шчаслівым у жаданы ім момант па дамове з Мефістофелем.

Зварот да натуры-прыроды бачым у паэме і ў творах Гётэ. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы падае: “НАТУРА, 5. Уст. Прырода” (т. 2. С. 326). У Коласа слова “натура” ў значэнні прырода заўважана было ў двух месцах:

А перад тым, як спаць лажыцца,
Ён мусіў к хлопцам паддабрыцца.
І хлопцы цёмнаю парою
Ішлі на двор з ім грамадою
І там стаялі, не йшлі ў хату,
Пакуль з натурай меў расплату. [154]

Гэты ўрывак можна супаставіць з урыўкам з драмы Гётэ “Тарквата Таса”:

Nein, alles ist dahin! — Nur eines bleibt:
Die Träne hat uns die Natur verliehen. (17)

У другім урыўку аўтар таксама ўжывае слова “натура”:

Ў ім абуджаецца надзея,
Адводзіць страх той, сэрца грэе,
Як сонца землю пасля буры,
Бо так заложана ў натуры. [335]

У гэтым параўнанні разгадваюцца два значэнні слова “натура”. З аднаго боку, як рыса чалавечай натуры, надзея. З другога боку, як навакольны свет. Цікавае тлумачэнне слова “die Natur” дае “Der Große Duden”: “Natur: I. die, — (die organ. u. die anorgan. Welt im Unterschied mit Kultur” (18).

Слова “прырода” сустракаецца ў паэме ў некалькіх месцах:

Было так ціха ўсё ў прыродзе. [22]
Маўкліва-сцішна ўсё ў прыродзе. [61]

У выразе:

І зноў ажывіцца прырода [206] —

ужо праглядаецца яе вечнасць. Супаставім радкі з “Фаўста”:

Ewig lebendige Natur. (19)
Daß du nicht enden kannst. (20)

Бліжэй да прыроды як такой ставіць сябе аўтар, ягоная душа злучаецца з душою прыроды:

З тваёю злучыцца душою
Ў адным суладдзі і настроі. [145]

Фаўст разгортвае кнігу, бачыць знак макракосмасу і зазначае:

Die Kräfte der Natur rings um mich her ethüllen?
Bin ich ein Gott? Mir wird so leicht!
Ich schau’ in diesen reinen Zügen
Die wirkinde Natur vor meiner Seele liegen. (21)

Такім чынам, ён — Бог! Яму стала лёгка, а сілы натуры раскрываюцца перад ім. І ён бачыць у гэтых чыстых рысах творчую (стваральную) прыроду, якая раскрылася перад ягонай душой. Але застаецца незадаволеным, бо так і не знайшоў усіх крыніц жыцця.

Wo fass: ich dich, unendliche Natur?
Euch Brüste, wo? Ihr Quellen alles Lebens,
An denen Himmel und Erde hängt. (22)

І ў перакладзе трагедыі “Фаўст” В. Сёмуха вяртае ўстарэлае значэнне слова “натура”:

Дзе ж я схаплю цябе, бясконцая натура?
Дзе ж я знайду цябе, жыцця крыніца,
Што моц дае і небу і зямлі? (23)

Нібы адказваючы на пытанне Фаўста, лірычны герой паэмы гаворыць:

І вось яна, жыцця крыніца,
Сама багіня-чараўніца,
Ўзышла на небе і міргнула. (24)

Даследчык творчасці І.-В. Гётэ Вільгельм Гірнус піша пра яго:

Er bedichtet die Natur in folgender Weise:
“Daß du nicht enden kannst, das macht dich groß,
Und daß du nie beginnst, das ist dein Los.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Du bist der Freuden echte Dichterquelle,
Und ungezählt entfließt dir Well’ auf Welle” (25).

Гётэ апявае прыроду, звяртаючыся да яе як да чысцейшай крыніцы паэзіі, яе радасці, што незлічонымі хвалямі адплываюць ад яе. У паэме “Новая зямля” я не прыкмеціла такога звароту да прыроды, як у Гётэ, дзе ён звяртаецца да прыроды на “ты” ці проста называе дзеянні прыроды, накіраваныя на паэта. Але абодвух паэтаў жывяць і натхняюць яе хвалі.

І ты маўчыш, маўчаць і далі,
Як бы ў адной агульнай хвалі,
Ў адной асветленай часіне
Жыццё злучыла свае плыні
І бег свой вечны прыпыніла,
І неба твар свой адчыніла.
На залаты парог паўдзення
Скрозь бела-руннае адзенне
У багне неба ясна-сіняй
Ступае сонца, як багіня,
І стрэлы-косы раскідае. [145]

Wie herrlich leuchtet
Mir die Natur!
Wie glänzt die Sonne!
Wie lacht die Flur!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Und Freud’ und Wonne
Aus jeder Brust.
O Erd’, o Sonne!
O Glück, o Lust! (26)

Розныя поры года апяваюцца паэтамі. Смутак па леце, якое адыходзіць, але вернецца — у Я. Коласа і радасць вясны і кахання — у Гётэ.

Паэма “Новая зямля” пачынаецца з хвалі:

Назад не прыйдзе хваля тая,
Што з быстрай рэчкай уплывае. [5]

На працягу ўсёй паэмы прагледжваецца тэма вады ў розных яе фізічных станах — снегу, льду, а таксама вады ў рэчках, азёрах, багне і інш.

У паэме “Новая зямля” і ў паэзіі Гётэ заўважаецца нейкая фатальная роля вады, хвалі, багны:

Не раз яна, зрабіўшысь парам,
На крыллях сонца дойдзе к хмарам
Ды зноў дажджом на рэчку сыйдзе —
Ніхто з граніц сваіх не выйдзе,
З законаў, жыццем напісаных. [5]

Я. Колас пачынаў паэму ў турме, калі яму было 25 гадоў. “Песню духаў над водамі” Гётэ напісаў у 1774 г., калі яму было 25 гадоў.

Die Menschen Seele
Gleicht dem Wasser:
Vom Himmel kommt es,
Zum Himmel steigt es,
Und wieder nieder
Zur Erde muß es,
Ewig wechselnd. (27)

У абодвух паэтаў бачым матыў абмежаванасці. Я. Колас параўноўвае жыццё чалавека з вадой, шлях якой праз пар даходзіць да неба і зноў вяртаецца на зямлю снегам, дажджом ці туманам. І тут праглядаецца матыў вечнасці душы.

Гётэ гаворыць, што душа чалавека, а гэта ягоная істота (суть), падобна вадзе — прыходзіць з неба, падымаецца на неба і зноў мусіць вяртацца на зямлю, вечна мяняючыся. Так Гётэ сцвярджае бессмяротнасць душы: “Ich habe feste Überzeugung, daß unser Geist ein Wesen ist ganz unzerstörbarer Natur; es ist ein fortwirkendes von Ewigkeit zu Ewigkeit. Es ist der Sonne ähnlich, die blos unsern irdischen Augen unterzugehen scheint, die aber eigentlich nie untergeht, sondern unaufhörlich fortleuchtet” (28).

Матыў непаўторнасці бачым у роздуме над плынню жыцця:

Не вернешся, як хваля тая,
Ка мне, вясна ты маладая!..

Супаставім урывак з верша Гётэ “Вечнае ў перамене”:

Und was sich an Jener Stelle
Nun mit deinem Namen nennt,
Kam herbei wie eine Welle,
Und so eilt’s zum Element. (29)

Прыгадаем радок з паэмы: “Ніхто з граніц сваіх не выйдзе” [5]. Ужо ў назве верша Гётэ “Межы чалавецтва” бачым, што абодва паэты ўсведамляюць абмежаванасць жыцця чалавека:

Was unterscheidet
Götter von Menschen?

Daß viele Wellen
Vor jenen wandeln,

Ein ewiger Strom:
Uns hebt die Welle,
Verschlingt die Welle,
Und wir versinken. (30)

Гётэ азначае, што людзей з багамі родніць тое, што перад імі ідзе шмат хваль, вечны струмень. Нас падымае хваля, глынае хваля, і мы патанаем. Верш напісаны ў 1779 г., калі ягонаму аўтару было 30 гадоў.

Са шкадаваннем зазначае паэт:

І толькі шкода, абмяжован
Ты, круг жыцця. [291]

Свой верш Гётэ заканчвае словамі:

Ein kleiner Ring
Begrenzt unser Leben.

І Колас, і Гётэ паўтараюць думку Геракліта, што нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку:

Час у Парэчча зноў вярнуцца
І ў іншых хвалях скупануцца. [126]

Ach, und in demselben Flusse
Schwimmst du nicht zum zweitenmal. (31)

Такія я ж паралелі можна правесці паміж іншымі вобразамі Коласа і Гётэ: вады (крыніцы ці сажалкі), савы-начніцы, месячнай ночы. Яны сведчаць пра тыпалагічнае падабенства творчасці беларускага і нямецкага класікаў.

---

(1) Колас Я. Зб. тв.: У 14 т. Мн., 1972. Т. 2. С. 407.
(2) Goethe J. W. Ausgewählte Werke. M., 1949. S. 191.
(3) Goethe J. W. Lebensgenuß. Leipzig. Zweiter Teil. S. 134.
(4) Колас Я. Новая зямля. Мн., 1967. С. 134. (Далей паэма цытуецца паводле гэтага выдання з пазначэннем старонак у квадратных дужках.)
(5) Goethe J. W. Ausgewählte Werke. S. 691.
(6) Тамсама. С. 89.
(7) Тамсама. С. 561.
(8) Schiller F. Die Weltweisen // Schillers Werke in fünf Bänden. Berlin; Weimar, 1971. B. 1. S. 116.
(9) Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1978. Т. 2. С. 390; Т. 5. С. 295.
(10) Das große deutsch-russische Wörterbuch. E. I. Leipzig u. a. M., 1969. S. 296.
(11) Goethe J. W. Ausgewählte Werke. S. 640.
(12) Гётэ Ё.-В. Фаўст / Пер. з ням. Васіля Сёмухі. Мн., 1976. С. 156.
(13) Goethe J. W. Ausgewählte Werke. S. 105.
(14) Тамсама. С. 118.
(15) Тамсама. С. 732.
(16) Тэма зямлі больш падрабязна прасочана ў нашым арт.: Матыў зямлі ў паэме Якуба Коласа “Новая зямля” // Род. слова. 1998. № 3. С. 131–141.

(17) Goethe J. W. Torquato Tasso // Chrestomatie der deutschen Literatur. 18.–20. Jahrhundert. M., 1949. S. 182.
(18) Der Große Duden. Leipzig, 1969. 16. Auflage. S. 318.
(19) Goethe J. W. Ausgewählte Werke. S. 724.
(20) Тамсама. С. 195.
(21) Тамсама. С. 497.
(22) Тамсама. С. 490.
(23) Гётэ Ё.-В. Фаўст. С. 29.
(24) Тамсама. С. 269.
(25) Girnus W. Johann Wolfgang Goethe: Über Kunst und Literatur. Berlin, 1953. S. 113.
(26) Goethe J. W. Ausgewählte Werke. S. 14.
(27) Тамсама. С. 157.
(28) Тамсама. С. 230.
(29) Тамсама. С. 159.
(30) Eckermann J. P. Gespräche mit Goethe in den letzten Jahren seines Lebens. 1823–1832. Berlin, 1956. S. 132.
(31) Goethe J. W. Ausgewählte Werke. S. 229.

***Валянціна Грышкевіч (Мінск)***

## ГЁТЭ Ў БЕЛАРУСКІМ ДРУКУ

**Валянціна Грышкевіч** — навуковы супрацоўнік Цэнтра імя Ф. Скарыны. Спецыяліст у галіне літаратурнай бібліяграфіі.

Клапшток неяк назваў Гётэ “магутным захопнікам”, — einer gewaltigen Nehmer. Гэтае “нядобрае” слова вельмі яскрава перадае адну з важнейшых здольнасцей Гётэ, якая зрабіла яго, па сутнасці, заснавальнікам нямецкай літаратуры, першым, хто змог увабраць у сябе і перапрацаваць у агульны набытак асобныя намаганні мноства сваіх сучаснікаў. У яго былі вялікія здольнасці завязваць узаемаадносіны з людзьмі, аб якіх ён расказваў сам у “Паэзіі і праўдзе” і ў аўтабіяграфічных артыкулах і запісках. На працягу свайго доўгага жыцця ён сустракаецца і плённа супрацоўнічае не толькі з пісьменнікамі, але і з філосафамі і вучонымі, музыкантамі і мастакамі сваёй эпохі. Гісторыя літаратуры не ведае другога такога сяброўства, заснаванага на творчым узаемадзеянні, як яго дружба з Шылерам.

І Гётэ не ўтойваў ад сваіх чытачоў, чым ён абавязаны сваім сучаснікам. Вось аб чым сказаў Гётэ, раскрыўшы глыбокі сацыяльны сэнс, калі гаварыў свайму сакратару і сябру Экерману за месяц да смерці (17 лютага 1832 г.): “У аснове ўсе мы — істоты калектыўныя, што б мы там ні ўяўлялі. Бо як мала знойдзецца нас і ў нас таго, што можна было б па чыстаму сумленню назваць нашай уласнасцю. Мы ўсе павінны атрымаць і вывучыцца як ад тых, хто быў да нас, так і ад тых, хто цяпер з намі… Гэтага, аднак, не могуць зразумець многія вельмі добрыя людзі і топчуцца са сваімі марамі аб арыгінальнасці палову свайго жыцця ў поцемках… Я абавязаны маімі творамі ні ў якім разе толькі сваёй уласнай мудрасці, а тысячам людзей і абставінам па-за мной, якія далі мне для іх матэрыял” (1).

Да Гётэ звяртаюцца паэты, каб перакласці яго творы, мастакі, каб напісаць свае карціны і ілюстрацыі, літаратары, каб глыбей і дакладней напісаць пра яго вершы, паэмы і самога аўтара.

На Беларусі, я думаю, Гётэ ведаюць усе, хаця вельмі мала гадзін адведзена ў школе для знаёмства з яго жыццём і творчасцю. Але калі прасачыць па друку Беларусі, то ўжо напрыканцы XIX ст. былі публікацыі пра Гётэ. "Минский листок" ад 19 лютага 1891 г. пісаў аб тым, што ў Мінскім гарадскім тэатры пастаўлена опера "Фаўст", а 17 верасня 1896 г. было апавешчана ў тым жа "Минском листке" пра адкрыццё зімовага тэатральнага сезона ў Мінску операй "Фаўст" Гётэ. 4 чэрвеня 1900 г. у "Минском листке" быў апублікаваны верш Гётэ "Злые люди ее очернили…" у перакладзе Галіцына на рускую мову. 10 лістапада 1901 г. "Минские губернские ведомости" пісалі аб тым, што выйшаў "новы поўны" пераклад паэмы "Фаўст" (на рускай мове).

Цікавіўся творчасцю Гётэ беларускі паэт Юрка Гаўрук. Яшчэ ў 1926 г. ён пераклаў вершы Гётэ "Двух я бачу…" і "Аратаму", якія былі апублікаваны ў "Аршанскім маладняку" (2). А ў 1928 г. выйшла кніга вершаў Гаўрука "Кветкі з чужых палёў"(3), куды таксама ўключаны пераклады вершаў Гётэ.

Паэзію Гётэ не абмінуў і перакладчык, вучоны, выдатны беларускі паэт Алег Лойка. У 1981 г. выйшла кніга яго перакладаў "Спатканне і ростань", якая з'явілася вынікам паездкі Алега Антонавіча ў Германію ў 1974 г., тады яшчэ ГДР. Ён паказаў паэзію Гётэ на лепшых яе ўзорах — ад ранніх вучнёўскіх спроб і наследаванняў да самых апошніх твораў — вяршынь філасофскай мудрасці паэта. Зборнік адкрывае верш "Зменлівасць", у якім вельмі добра выяўляецца настрой паэта, душа якога напоўнена смуткам адчаю ад здрады каханай:

Навошта ж марнуеш ты ў жалі і смутку
Цудоўныя хвілі, што чэзнуць так хутка, —
Сышла дарагая, пайшла за другім?
Не вернеш, як хвалю, якая збягае!
А ведаеш ты, як цалуе другая?. .
Бы першая не цалавала зусім!.. (4)

У дваццаціпяцігадовым узросце, у снежні 1774 г., Гётэ напісаў верш "Праметэй". Ён напісаны вольным памерам, які так любіў Гётэ для выражэння вялікіх духоўных парываў. Гэты верш — адзін з самых цудоўных па яркасці сцвярджэння правоў чалавека на зямлі супраць рабства і багоў:

Нікчэмных больш, чым вы, багі,
Пад сонцам не знайсці!
Сваю жабрачую вялікасць
Вы жывіце
Ахвяр дыханнем
І малітваў шэптам, —
Згалелі б вы наогул,
Не былі б
Ахмураныя марнаю надзеяй
Старцы, дзеці. (5)

Трагедыя “Фаўст” Гётэ належыць да ліку самых славутых з’яў сусветнай літаратуры. Больш як пяцьдзесят гадоў (праўда, з вялікімі перапынкамі) спатрэбілася аўтару для напісання трагедыі “Фаўст”. У Беларусі першым перакладчыкам “Фаўста” быў Алесь Дудар. У 30-я гг. ён апублікаваў некалькі раздзелаў у часопісе “Полымя рэвалюцыі” (6), а таксама ў газеце “Літаратура і мастацтва” (7). У 1949 г., у сувязі з 200-годдзем з дня нараджэння Гётэ, быў апублікаваны ў перакладзе А. Зарыцкага славуты маналог Фаўста з 2 часткі трагедыі (Літ. і мастацтва. 1949. 27 жн.; Полымя. 1949. № 9. С. 106–107).

Больш ніхто ў Беларусі не спрабаваў перакласці Фаўста ні часткова, ні поўнасцю, акрамя Васіля Сёмухі. У 1966 г. у зборніку “Дзень паэзіі” быў апублікаваны ўрывак з 1 часткі “Фаўста” ў яго перакладзе, затым у “Полымі”— раздзел з трагедыі.

21 красавіка 1972 г. у “Літаратуры і мастацтве” апублікаваны фрагменты і песні з трагедыі “Фаўст”. У 1976 г. трагедыя Гётэ “Фаўст” у перакладзе В. Сёмухі выйшла асобным выданнем. Пераклад В. Сёмухі “Фаўста” паэтычны. Ён вельмі добра загучаў на беларускай мове і заняў належнае месца сярод іншых перакладаў. Перавыдаваўся гэты пераклад у 1991, 1992, 1996 гг. У перакладзе на рускую мову выйшлі “Выбраныя творы” Гётэ ў 1977, 1978 гг.




Іаган Вольфганг фон Гётэ 250

*Зборнік “Выбранай лірыкі” Гётэ, выдадзены ў серыі “Паэзія народаў свету” (1981)*

Несумненна, што вобраз “Фаўста” аўтабіяграфічны. Але аўтабіяграфічнасць не вонкавая, а глыбінная, дзе аўтар укладае ў вусны героя свае думкі і мары. Фаўст, як і сам Гётэ, нястомна шукае адказу на пытанне: у чым заключаецца прызнанне чалавека, якая будучыня чакае чалавецтва. Ці не таму так хвалююць фінальныя старонкі трагедыі:

Не скорана пагібельная багна,
На плён, здабыты мною, зеўрыць прагна,
Ды я каварную стыхію змушу
Аддаць захопленую сушу
Мільёнам рупных пасялян.
Няхай пагрозай вечнай калыхацца
Ля дамбы будзе грозны акіян,
Свабодны люд і радасная праца
Шчаслівым зробяць гэты ўбогі край,
І на зямлі яны здабудуць рай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Калі б у працы ўбачыў я заўсёднай
Народ свабодны на зямлі свабоднай,
Імгненню б я сказаў тады:
“Цудоўнае, спыніся! — панясу
З сабой у вечнасць я тваю красу”.
Не можа ў вечнасці прапасці
Усё, што я паспеў зрабіць для шчасця.
Я, прадчуваючы трыумф надзей маіх,
Жыцця перажываю лепшы міг. (8)

---

(1) Цытата па: Шагинян М. Собр. соч.: В 9 т. М., 1989. Т. 8. С. 13.
(2) Аршанскі маладняк. 1926. № 2. С. 19.
(3) Гаўрук Ю. Кветкі з чужых палёў. Мн., 1929. С. 40–42.
(4) Гётэ Ё.-В. Спатканне і ростань / Пер., уклад., прадм. А. Лойкі. Мн., 1981. С. 7.
(5) Тамсама. С. 63.
(6) Полымя рэвалюцыі. 1935. № 10. С. 92–100.
(7) Літ. і мастацтва. 1934. 16 кастр.
(8) Гётэ Ё.-В. Фаўст: Трагедыя / Пер. В. Сёмухі. Мн., 1976. С. 386–387.

***Кастусь Цвірка (Мінск)***

## НОВАЕ ВЫДАННЕ ТВОРАЎ ГЁТЭ

**Кастусь Цвірка** — кандыдат гістарычных навук, пісьменнік. Аўтар кніг па гісторыі літаратуры і этнаграфіі. Узначальвае выдавецтва “Беларускі кнігазбор”.

З 1999 г. у нашай краіне пачало ажыццяўляцца 200-томнае выданне “залатой бібліятэкі” Беларусі пад агульнай назвай “Беларускі кнігазбор”. У яе ўвойдзе самае важнае, самае каштоўнае з нашай багатай літаратуры, якая ствaралася на працягу амаль тысячы гадоў.

Кнігі “Беларускага кнігазбору” пачалі выходзіць у дзвюх серыях: першая — “Мастацкая літаратура”, другая — “Гісторыка-літаратурныя помнікі”. Імі мяркуецца ахапіць усё багацце вялікай літаратурнай спадчыны беларускага народа, вярнуць з небыцця забытыя скарбы айчыннай культуры.

Цяпер мы распрацавалі новую, трэцюю серыю “Беларускага кнігазбору” — “Замежная літаратура”, якая пазнаёміць чытача з шэдэўрамі сусветнай літаратуры ў перакладах на беларускую мову непасрэдна з арыгінала. У кожным томе серыі “Замежная літаратура”, як і ў дзвюх папярэдніх, будуць змяшчацца найважнейшыя творы пісьменніка, якому гэты том прысвечаны, а таксама грунтоўны ўступны артыкул пра яго жыццё і творчасць, блок ілюстрацый і неабходныя каментарыі. Разам з айчыннымі аўтарамі ў дом беларуса прыйдуць як свае і зоймуць ганаровае месца на паліцах Гамер і Вергілій, Фірдаусі і Ду Фу, Джавані Бакачыо і Джэфры Чосер, Дантэ Аліг’еры і Франчэска Петрарка, Франсуа Рабле і Вільям Шэкспір, Сэрвантэс і Мальер, Роберт Бёрнс і Шарль дэ Кастэр, Даніэль Дэфо і Жан-Жак Русо, Джанатан Свіфт і Генры Філдынг, Іаган Вольфганг

Гётэ і Фрыдрых Шылер, Джордж Гордан Байран і Фенімор Купер, Леў Талстой і Анарэ дэ Бальзак, Тарас Шаўчэнка і Генрых Гейнэ, Фёдар Дастаеўскі і Уолт Уітмэн, Рабіндранат Тагор і Эрнст Хэмінгуэй, Бернард Шоў і Антуан дэ Сент-Экзюперы, Вальтэр Скот і Віктор Гюго, Акутагава і Шолам-Алейхем, Яраслаў Гашак і Гіём Апалінэр, Генрык Сянкевіч і Уладыслаў Рэймант, Марсель Пруст і Франц Кафка, Павел Вежынаў і Жан-Поль Сартр, Альбер Камю і Ян Райніс, Курт Вонегут і Чэслаў Мілаш, многія іншыя пісьменнікі розных эпох і народаў.

Распачынае гэтую вялікую серыю аднатомнік выбраных твораў вялікага нямецкага паэта Іагана Вольфганга Гётэ. Сюды ўвойдуць найбольш значныя яго вершы і балады розных гадоў, раман у лістах "Пакуты маладога Вертэра" і трагедыя "Фаўст". Вершы і балады будуць пададзены ў перакладах Алега Лойкі, Лявона Баршчэўскага, Васіля Сёмухі, Юркі Гаўрука і Юлія Таўбіна. "Пакуты маладога Вертэра" пераклаў спецыяльна для гэтага выдання Лявон Баршчэўскі. "Фаўст" — у дапрацаваным перакладзе В. Сёмухі. У канцы кнігі, у раздзеле "Дадатак", чытач знойдзе лібрэта славутай оперы "Фаўст", напісанай аўтарам спецыяльна для нашага суайчынніка кампазітара Антона Радзівіла, з якім геній нямецкай літаратуры быў у сяброўскіх адносінах. Склалі кнігу і напісалі грунтоўны ўступны артыкул Л. Баршчэўскі і П. Копанеў. Ёсць у кнізе каментарыі да твораў паэта, фотаілюстрацыі да яго біяграфіі.

Іаган Вольфганг фон Гётэ 250



*Адна з ілюстрацый будучай кнігі: Дом бацькоў Гётэ ў Веймары*

Гэта будзе найбольш поўнае выданне твораў І.-В. Гётэ на беларускай мове. Яно дасць выдатнае ўяўленне пра неўміручую спадчыну нямецкага генія. Кніга адрасуецца школьным і публічным бібліятэкам, а таксама самаму шырокаму колу чытачоў, якія жадаюць ведаць лепшыя ўзоры сусветнай літаратуры.

## ПРЭМ'ЕРА "ФАЎСТА"

20 ліпеня ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь адбылася прэм'ера оперы "Фаўст" Антонія Генрыка Радзівіла, нясвіжскага і алыцкага ардыната. Лібрэта для яго напісаў сам Гётэ. Пастаноўка ажыццявілася дзякуючы дапамозе Гётэ-інстытута ў Мінску. Рэжысёрам-пастаноўшчыкам выступіў вядомы артычт Віктар Скорабагатаў.

*Валянціна Кірысь (Мінск)*

# ПАЭЗІЯ ГЁТЭ Ў КАНТЭКСЦЕ ВЫКЛАДАННЯ НЯМЕЦКАЙ МОВЫ СТУДЭНТАМ БДУ

Wer den Dichter will verstehen,
muß ins Dichters Lande gehen.
*J. W. Goethe*

**Валянціна Кірысь** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Аўтар прац па германістыцы.

У практыцы выкладання замежных моваў замацаваўся тэрмін "лінгвакраіназнаўства". Гэта, як вядома, дысцыпліна, што выкладаецца не асобна, а ў працэсе практычнага навучання мове. З аднаго боку — гэта вывучэнне мовы, з другога — знаёмства з рэаліямі краіны, мова якой вывучаецца, з яе гісторыяй, культурай і традыцыямі. Гэта дазваляе ўдала спалучаць элементы краіназнаўства з моўнымі з'явамі, што выступаюць не толькі як сродак камунікацыі, а таксама як сродак азнаямлення навучэнцаў з незнаёмай або з мала знаёмай рэчаіснасцю.

Адна з мэтаў выкладання мовы — выхаванне ў навучэнцаў незалежна ад спецыфікі факультэта станоўчага стаўлення як да мовы, так і да культуры народа, што гаворыць на гэтай мове, да лепшых прадстаўнікоў гэтай культуры, якія праславілі сваю краіну, узбагацілі не толькі айчынную, але і сусветную культуру. Адной з такіх постацей і з'яўляецца І.-В. Гётэ.

Творы Гётэ, мова яго твораў у адзінстве з мастацкімі вобразамі могуць быць сродкам далучэння студэнтаў да культуры Германіі і паспрыяць адначасова ўзбагачэнню моўных ведаў.

Кожны год у верасні, калі адбываецца знаёмства з першакурснікамі філалагічнага факультэта, з будучымі філолагамі-негерманістамі, студэнтам прапаноўваецца апытальны ліст, які дае ўяўленне аб тым, што яны ўжо ведаюць, што выклікае ў іх цікавасць. Прапануюцца, напрыклад, такія пытанні:

1. Навошта вы вывучаеце нямецкую мову?
2. Якія асацыяцыі ў вас са словам "Германія"?
3. Назавіце славутых пісьменнікаў або паэтаў Германіі.
4. Якія творы Гётэ вы ведаеце?
5. З якімі творамі вы пазнаёміліся ў школе? І інш.

На першае пытанне ў апытальным лісце прапануюцца розныя варыянты адказаў. Нярэдка студэнты выбіраюць такі: "Хачу чытаць творы Шылера, Гётэ ў арыгінале". Такое жаданне для студэнта-філолага зразумелае. Гэта яшчэ адзін доказ адзінства двух працэсаў. Чытаць арыгінальную літаратуру, вывучаючы мову, або вывучаць мову — у тым ліку і на матэрыяле арыгінальнай літаратуры. Задача, здаецца, зразумелая, але і складаная для выкладчыка. Што выбіраць, як знайсці найбольш эфектыўныя прыёмы работы з арыгінальным матэрыялам з улікам асаблівасцей групы?

У якасці аўтэнтычнага матэрыялу мы прапануем студэнтам паэзію Гётэ: песні, балады, вершы. Па-першае, паэзія найбольш адпавядае існуючым крытэрыям адбору літаратурных тэкстаў. А менавіта: мастацкая і краіназнаўчая важкасць, даступнасць з пункту гледжання моўных сродкаў, адпаведнасць узроўню моўнай падрыхтаванасці студэнтаў, іх узроставым асаблівасцям, магчымасць апоры на міжпрадметныя сувязі і інш.

Па-другое, выкарыстанне ўзораў класічнай нямецкай паэзіі, на наш погляд, можа быць адным з эфектыўных сродкаў дасягнення практычных мэтаў. Паэзія вельмі добра спрыяе развіццю асноўных відаў камунікатыўнай дзейнасці: чытання, аўдзіравання, гаварэння. У паэтычных творах Гётэ закранаюцца універсальныя праблемы, якія маюць жыццёва важны характар. Паэзія дае магчымасць выкарыстаць нешаблонныя творчыя тыпы практыкаванняў. Яна ажыўляе практычныя заняткі, выклікае станоўчыя эмоцыі, спрыяе лепшаму засваенню матэрыяла, тым больш калі яна адпавядае светапогляду студэнтаў, перадае іх думкі і перажыванні.

Напрыклад, верш “Heidenröslein” Гётэ напісаў, калі вучыўся ў Страсбургу. Яму было 22 гады. Тады ён пазнаёміўся і пакахаў Ф. Брыён, і гэты верш быў прысвечаны ёй. У вершы “Gefunden” паэт таксама звяртаецца да сапраўднага пачуцця, сапраўднай прыроды, да прастаты і шчырасці народнай паэзіі. Верш даступны з пункту гледжання моўных сродкаў, стылю і сінтаксісу. Песня “Mailied”, якая зрабіла юнага паэта знакамітым, прысвечана той самай тэме, напоўнена пачуццём радасці жыцця. Сонца, зямлю, маленькую кветачку, тоненькі голас птушкі, усе сілы прыроды і кожную жывую істоту звязвае гэтае пачуццё. Такая тэма заўсёды знойдзе водгук праз стагоддзі ў юных душах.

Іаган Вольфганг фон Гётэ 250




*Вокладка выдання партытуры оперы “Фаўст”*

Улічваючы агульны ўзровень філалагічнай падрыхтоўкі студэнтаў, а ён кожны год розны, мы не задаем нейкую цвёрдую паслядоўнасць уключэння вершаў, як і іх выбар або аб’ём. Гэта вызначае выкладчык па свайму гледжанню, улічваючы розныя акалічнасці, у залежнасці ад мэтаў, якія ставяцца на кожны семестр, ад тых падручнікаў, вучэбна-дапаможнага матэрыялу, аўдыя-візуальных сродкаў, якія плануецца выкарыстаць на працягу ўсяго перыяду навучання, пачынаючы ўжо з першага курса.

Што датычыцца балад Гётэ, то знаёмства з імі адбываецца крыху пазней — у рамках прадугледжанага праграмай знаёмства студэнтаў з рознымі літаратурнымі жанрамі (байкі, казкі, балады, навелы і інш.).

З вялікім задавальненнем адзначу, што ў арсенале выкладчыкаў нямецкай мовы Белдзяржуніверсітэта ёсць багаты краіназнаўчы матэрыял, у тым ліку цікавы аўдыя- і відэаматэрыял, які тычыцца творчасці Гётэ, яго паэзіі, які не можа не выклікаць цікавасці ў студэнтаў. Такія вершы, як “Mailied”, “Heidenröslein”, балады “Fischer”, “Erlkönig” і інш. гучаць з аўдыякасеты ў выкананні немцаў.

Эфектыўнасць выкарыстання ўзораў паэзіі ў значнай ступені залежыць, зразумела, ад правільна арганізаванай работы з імі, ад выбару практыкаванняў, якія стымулююць мысліцельную дзейнасць і спрыяюць развіццю матывацыі. Адэкватныя прыёмы работы дазваляюць перамагчы аб’ектыўныя цяжкасці, якія заўсёды ўзнікаюць у час работы над тым ці іншым творам.

Невялікая колькасць часу, што адводзіцца на філалагічным факультэце на замежную мову, вызначае неабходнасць сціслай падачы матэрыялу, павелічэння самастойнай часткі работы. І тут таксама мае вялікае значэнне правільная, абгрунтаваная паслядоўнасць у рабоце над арыгінальным вершам. На пачатку праводзіцца падрыхтоўчая работа. Студэнты знаёмяцца з біяграфічнымі звесткамі пра паэта, эпізодамі з жыцця Гётэ, гістарычным і сацыяльна-культурным фонам яго твораў. Напрыклад, знаёмству з вершам “Wanderers Nachtlied” папярэднічае гісторыя напісання верша. У час адпачынку ў Ільменаў верш быў напісаны алоўкам на драўлянай сцяне летняга доміка. У лірыцы тых гадоў ужо гучыць матыў прымірэння, заспакаення, гармоніі. Гётэ больш стрыманы ў выражэнні пачуццяў. Цікавым для студэнтаў з’яўляецца і той факт, што паэт складаў свае вершы ў падарожжах або пасля вяртання з падарожжаў. Ён неаднаразова бываў у Швейцарыі, Італіі, плаваў па Рэйне, Некары, Майне, быў у Цюрыху, жыў працяглы час у Веймары. А Веймарскі перыяд — гэта асаблівы перыяд у жыцці і творчасці Гётэ.

І вось якраз тут, на гэтым этапе вельмі выніковым з’яўляецца паказ адпаведнага відэаматэрыялу, паказ мясцін, звязаных з імём Гётэ. Гэта могуць быць невялікія ўрыўкі з серыі відэафільмаў “Reise durch Deutschland”, якія лагічна звязаны з адпаведным перыядам або з самім творам.

Або іншы прыклад: знаёмства з баладамі Гётэ пачынаецца са знаёмства з жанрам балады, яго гісторыяй. Жанр балады быў сфарміраваны ў сярэдневякоўі, а Гётэ быў адным з ініцыятараў яго адраджэння. Такія балады, як “Erlkönig”, “Fischer”, створаны на матэрыяле антычных міфаў і паданняў. І ў іх ёсць нешта загадкавае, павучальнае, адчуваецца еднасць народна-песеннага лірычнага героя з духам сярэдневякоўя, з рамантыкай эпохі.

Наступныя этапы работы — знаёмства з самім вершам, з яго назвай, прагназаванне зместу верша, праслухоўванне ў фоназапісе, чытанне за дыктарам, работа з каментарыямі, фанетычная работа.

Важнай і значнай часткай работы з’яўляецца апрацоўка лексіка-граматычнага

матэрыялу верша. Кожная фраза верша Гетэ — гэта вынік руху душы паэта, а сам верш становіцца адзінкай моўных зносін аўтара і чытача і патрабуе ў адказ разумення. Студэнты знаходзяць у тэксце верша сімвалы дружбы і кахання, моўныя адзінкі, якія адлюстроўваюць светапогляд паэта, выконваюць функцыю выразнасці, новыя спалучэнні ўжо знаёмых слоў, эмацыянальна афарбаваных словазлучэнняў. Так, назва верша “Heidenröslein” мае сімвалічны характар. Гэта не толькі сімвал кахання, але і сімвал маладой цнатлівай дзяўчыны. У песні “Mailied” сімвалам кахання з’яўляецца месяц май.

Чытанне верша немагчыма без асэнсавання, абагульнення і затым фарміравання ўласнай думкі. Студэнт не толькі атрымоўвае інфармацыю з тэкста верша, але і ўносіць у тэкст сваё ўласнае разуменне. Ён ужо падрыхтаваны да таго, каб выказаць гэтае разуменне ў перакладзе.

Пераклад верша — вельмі цікавы этап работы для студэнта-філолага і заўсёды падабаецца студэнтам. Для іх верш Гётэ — гэта не толькі ўзор нямецкай класічнай паэзіі, але і лінгвістычны аб’ект. Яны з задавальненнем працуюць з лексікай, унікаюць у семантыку слова, пераадольваюць граматычныя цяжкасці. Ім падабаецца адчуваць сябе перакладчыкамі. Часцей за ўсё гэта бывае літаральны, парадковы пераклад, блізкі па форме і зместу да арыгінала, або больш вольны, а некаторыя нават спрабуюць свае сілы ў паэтычным перакладзе.

Іаган Вольфганг фон Гётэ 250



*Мастацкі кіраўнік “Беларускай Капэлы” Віктар Скорабагатаў рыхтуе пастаноўку оперы “Фаўст”*

Прыпамінаецца адзін выпадак, калі студэнты другога курса ў якасці хатняга задання паспрабавалі перакласці баладу “Erlkönig”. На наступны раз, вельмі задаволеныя, яны прынеслі паэтычны, вершаваны пераклад балады на беларускую мову. Студэнты расказвалі, што пераклад быў зроблены ў студэнцкім пакоі інтэрната і што гэта вынік агульнай працы. Але потым, праўда, прызналіся, што галоўны перакладчык балады — студэнт з паралельнай групы. Пераклад ім вельмі падабаўся. Адчувалася, што яны з’яўляліся калі не саўдзельнікамі, дык сведкамі гэтай работы. Яны былі гатовы абгрунтаваць кожнае слова. Напрыклад, чаму адзін з персанажаў названы ў перакладзе не “лясны цар”, як зрабілі некаторыя аўтары перакладаў, а “лясун” ? Таму што, тлумачылі студэнты, лясун — гэта жыхар лесу, лясны дух, а “Erlkönig” у нямецкай мове — гэта цар, прывід, цар духаў, якія жывуць у тумане паміж дрэвамі ля вады, у нізкіх балоцістых

мясцінах. У беларускай мове гэта “алешына” або “вярба”, у нямецкай — “Erle” або “Weide”. А ў перакладзе ёсць, маўляў, усё: рака, туман, туманная імжа, вярба, вербалоз.

— Татулечка, родны, ты чуеш, скажы, —
Лясун мяне кліча з туманнай імжы.
— Сынок, супакойся, здалося табе, —
То вецер гуляе галлём на вярбе…

У тым перакладзе ёсць яшчэ адзін цікавы назоўнік — “верхнік”, г. зн. той, хто едзе верхам на кані, а не “яздок, верхавы або коннік”, як гэта даецца ў слоўніках. Той студэнт (а гэта быў М. Скобла), якога многія ведалі ўжо тады, праз 3–4 гады стаў сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гэты пераклад прапаноўваецца кожны раз першакурснікам як пераклад, зроблены таксама студэнтам.

І вось на гэтым этапе работы над вершам адбываецца знаёмства з варыянтамі перакладаў вершаў Гётэ майстрамі слова, вядомымі паэтамі. Прыгажосць арыгінала цудоўна перадаецца ў перакладах рускіх паэтаў Лермантава, Жукоўскага, Брусава, Анненкава і інш. Лірыка Гётэ гучыць, як вядома, і на беларускай мове ў перакладах С. Ліхадзіеўскага, А. Лойкі. У зборніку выбранай лірыкі “Спатканне і ростань” Гётэ паўстае ў перакладах А. Лойкі як філосаф і мудрэц, рамантык і закаханы.

Практычныя мэты навучання чытанню падразумяваюць і развіццё ўмення карыстацца даведачнай літаратурай, двухмоўнымі і тлумачальнымі слоўнікамі, энцыклапедыямі і г. д. Некаторыя студэнты, атрымліваючы заданне, самі знаходзяць цікавыя звесткі, звязаныя з творчасцю Гётэ, з перакладамі яго вершаў. Студэнтам падаецца цікавым, як гучаць на беларускай мове некаторыя выслоўі Гётэ, вядомыя з перакладаў на рускую мову. Напрыклад, словы з апошняга маналога Фаўста “Nur der verdient sich Freiheit wie das Leben, der täglich sie erobern muß”, вядомыя з перакладу на рускую мову, — “Лишь тот достоин жизни и свободы, кто каждый день за них идет на бой”, або некаторыя выказванні Гётэ пра веданне замежных моваў.

Знаёмства з паэтычнымі перакладамі таго ці іншага верша Гётэ звычайна пераходзіць у наступны этап развіцця камунікатыўнага дзеяння — уменне выказаць сваю думку аб прачытаным, уменне апісаць, параўнаць, якое рэалізуецца ў практыкаваннях:

1. Скажыце, якое ўражанне аказаў на вас верш?
2. Вызначце тэму верша.
3. Параўнайце пераклад з арыгіналам.
4. Скажыце, які пераклад вам здаецца больш дакладным або больш вольным?

Вось, напрыклад, заданні да верша “Heidenröslein”:

1. Назавіце персанажаў верша.
2. Якія якасці персанажаў названы ў вершы?
3. Параўнайце вобраз маладой дзяўчыны Ф. Брыён з верша з тым вобразам, які вы бачыце на фота. Што супадае, а што не і чаму?

4. Што выяўляе кароткі верш на надмагільным помніку Ф. Брыён?

5. Што вам падабаецца больш: “Heidenröslein” — як верш або як песня?

6. Ці адпавядае мелодыя зместу верша? Ці перадае яна атмасферу тэксту песні і адносіны абодвух персанажаў?

Цікавым і прадуктыўным з’яўляецца выкарыстанне ў рабоце над баладай “Erlkönig” фотаздымка, змешчанага ў падручніку “Deutsch aktiv neu” пад назвай “Lüneburger Heide”. Так называецца мясціна, якая знаходзіцца на поўначы Германіі, недзе паміж Гамбургам і Гановерам. Lüneburger Heide характарызуецца як вельмі прыгожы, паэтычны, трохі меланхалічны, часам таямнічы ландшафт. Цяпер гэта вялікі запаведнік з пралескамі, ціхімі балотамі ў тумане, рэдкімі птушкамі і прыгожымі кветкамі — адным словам, некранутая прырода. Гэты фотаздымак змешчаны ў падручніку побач з баладай “Erlkönig”. Калі глядзіш на яго, узнікае ўражанне, што менавіта тут скакаў на кані персанаж балады — бацька са сваім хворым сынам, якога праследаваў лясны дух.

Цікавасць у студэнтаў выклікае гісторыя аднаго з перакладаў верша “Wanderers Nachtlied”. У 1902 г. верш Гётэ быў перакладзены на японскую мову. Праз дзевяць гадоў адзін французскі паэт, думаючы, што гэта арыгінал, пераклаў яго з японскай мовы на французскую. Праз многа гадоў верш зноў быў перакладзены на нямецкую мову пад назвай “Японская начная песня” і надрукаваны ў нямецкім часопісе. Гэты шматразовы пераклад змешчаны ў падручніку “Sprachbrücke” побач з арыгіналам. Студэнтам прапануецца параўнаць іх і адшукаць, калі гэта магчыма, у перакладзе тое, што засталося, на іх погляд, ад Гётэвага верша.

Такім чынам, працуючы над тым ці іншым вершам Гётэ, студэнт не толькі асвойвае адначасова з сюжэтам багацце аўтарскіх асацыяцый, дыялектыку яго пачуццяў, але і ствараюцца для яго перадумовы для іншага ўспрымання мовы. Вывучэнне мовы не ўяўляецца студэнту проста механічным працэсам завучвання новых слоў і граматычных правіл. Можна заўсёды звярнуцца ў рамках, напрыклад, той ці іншай граматычнай тэмы да адпаведнага выказвання Гётэ, да цэлай страфы.

Напрыклад, толькі ў адным вершы “Meeresstille” можна разгледзець шматлікія граматычныя з’явы. Гэта спражэнне дзеяслова, ужыванне прыметнікаў і прыназоўнікаў, зваротныя дзеясловы, словаўтваральны суфікс *-lich*, адмоўны займеннік *kein* і прыстаўка *un-*, складаныя назоўнікі і прыслоўі. І запамінаецца гэта хутчэй, лягчэй закладваецца ў доўгатэрміновую памяць. Або калі студэнт запомніць выказванне Гётэ пра веданне замежных моваў: “Wer eine Fremdsprache nicht kennt, weiß nichts von seiner eigenen”, ён мае больш шансаў не рабіць надалей памылак у парадку слоў у дадзеным сказе.

У заключэнне хачу адзначыць, што выбар верша, яго аб’ём і спосабы каментавання, прыёмы прэзентацыі, характар і аб’ём практыкаванняў могуць варыіравацца ў залежнасці ад характару аўдыторыі, ад яе філалагічнай падрыхтаванасці і іншых фактараў. Галоўнае, каб усё гэта спрыяла дасягненню нашай галоўнай мэты — навучанню нямецкай мове.

## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ДАВЕДНІКА

### ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКАЯ ЮЛІЯНА



***Вітан-Дубейкаўская Юліяна*** *(дзявочае прозвішча Менке, псеўд. Кветка Вітан, 16.11.1886, Вільня – 1970, Нюрнберг).*

Юліяна Менке нарадзілася ў сям'і нямецкіх ткачоў-перасяленцаў. З дзяцінства ведала беларускую мову, бо, як пазней ўспамінала, "расьлі яны пад уплывам акружаючых нас людзей і гутарылі зь імі, як прыдзецца: і па-нямецку й па-польску, і па-тутэйшаму (г. зн., па-беларуску)". Вучылася ў прыватнай гімназіі Веры Прозаравай, (1895–1905), дзе пазнаёмілася з Алаізай Пашкевіч (Цёткай). З 1907 да 1913 г. прадаўжала адукацыю на Вышэйшых жаночых курсах у Пецярбургу. Была пакінута пры курсах як асістэнтка кафедры гісторыі мастацтва і ўладкавалася на работу ў Музей мастацтваў і старасвеччыны Вышэйшых жаночых курсаў. У маі 1914 г. здала дзяржаўныя экзамены на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта, дзе і правучылася 1914/15 навучальны год. Пасля летніх вакацый з-за Першай сусветнай вайны засталася ў Вільні. У чэрвені 1915 г. пазнаёмілася з І. Луцкевічам, які зацікавіў яе лёсам беларускай нацыі, асабліва беларускай старасвеччынай, і прапанаваў ёй стаць сябрам Беларускага камітэта помачы пацярпелым ад вайны.

Як немка па паходжаню Ю. Менке шмат зрабіла ў Вільні для ўладжвання беларускіх спраў пры нямецкай акупацыі. Яна прадстаўляла інтарэсы беларускага боку, перакладала на нямецкую мову дакументы, хадайнічала перад уладамі Обер Ост аб арганізацыі беларускага культурна-палітычнага жыцця на тэрыторыі, занятай нямецкімі войскамі. Яна ж "хадзіла з Іванам у нямецкія ўстановы, каб дапамагчы зь нямецкай мовай у гутарках… Ня лёгкая была гэта справа. Немцы спачатку зусім не разьбіраліся ў нацыянальных справах нашага краю. Яны зналі расейцаў, палякаў, жыдоў, часткава лятувісаў, але беларусы для іх былі чымсьці новым". Разам з Цёткай, а пазней з І. Луцкевічам арганізоўвала першыя беларускія школы ў Вільні і ваколіцах. Бараніла беларускае школьніцтва

ў Школьнай радзе Віленскага магістрата, актыўна дапамагала Луцкевічу весці барацьбу за Базыльянскія муры, каб там адчыніць Беларускую гімназію і заснаваць Беларускі музей. Распачалася шматмесячная валакіта з гарадскім упраўленнем (Stadtverwaltung), з ваеннай адміністрацыяй (Militerregierung), і толькі ў канцы снежня Беларускі камітэт атрымаў дазвол заняць Базыльянскія муры. Супольнымі намаганнямі 1 лютага 1919 г. гімназія была адчынена. Яе першымі настаўнікамі былі Максім Гарэцкі, Леаніла Чарняўская, Міхаіл Каханові́ч (першы дырэктар), Алена Сакалова, ксёндз Адам Станкевіч, Іван і Антон Луцкевічы, Юліяна Менке. Там яна працавала настаўніцай нямецкай мовы і педагогікі з 1919 да 1922 г.

Шмат сіл аддала рабоце ў Беларускім камітэце помачы пацярпелым ад вайны (з верасеня 1915 г.): вяла перамовы з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, адстойвала інтарэсы БК, хадайнічала аб матэрыяльнай дапамозе бежанцам, якіх меў пад сваёй апекай камітэт (народныя кухні, беларускія народныя школы, беларускі тэатр Аляхновіча). Кіравала беларускім аддзелам працоўных майстэрняў (Arbeitsstuben), арганізоўвала выстаўкі, займалася продажам беларускіх вырабаў народнага мастацтва на карысць БК. Тут пазнаёмілася з кампазітаркай М. Кімант, якая напісала музыку да першай беларускай оперы “Залёты” на словы В. Дуніна-Марцінкевіча (яе ставілі ў 1915 г. у Вільні). У 1916 г. Ю. Менке далучыла да беларускага культурнага руху і сваю сястру Лялю, якая прымала актыўны ўдзел у дзейнасці беларускай артыстычнай трупы пад кіраўніцтвам Ф. Аляхновіча.

У якасці перакладчыцы, а затым і члена рэдакцыйнага калектыву (1916–1918) актыўна супрацоўнічала ў “Zeitung der 10 Armee”, якую немцы выдавалі ў Вільні. Там шмат змяшчалася артыкулаў па геаграфіі, этнаграфіі і гісторыі Беларусі. Працуючы ў рэдакцыі гэтай газеты, яна запрыязнілася з нямецкім літаратарам Вальтэрам Егерам, які потым выдаў у Германіі кнігу “Беларусь” (Берлін, 1919).

У 1922 г. Ю. Менке выйшла замуж за старшыню Беларускага камітэта ў Варшаве, інжынера-архітэктара Лявона Вітан-Дубейкаўскага. Неўзабаве муж пераехаў у Вільню, стаў працаваць у Мулярскай школе і на будоўлях. Шмат дапамагаў беларускай справе: фінансаваў некаторыя выданні, супрацоўнічаў са святаром В. Гадлеўскім. Юліяна актыўна садзейнічала яму ў гэтай працы. У жніўні 1939 г. польскія ўлады арыштавалі яе як парафіянку лютэранскай царквы і як грамадзянку варожай краіны, аднак 11 верасня ў сувязі з цяжкай хваробай мужа адпусцілі. “У час прыходу савецкіх войскаў, — пісала яна ва ўспамінах, — у нашым доме знайшлі прытулак праф. В. Іваноўскі, праўнік М. Шкялёнак, які потым уцёк у Нямеччыну”.

6 лістапада 1940 г. памёр Л. Вітан-Дубейкаўскі. Пасля яго смерці дом і зямельны ўчастак былі нацыяналізаваны, а Юліяне пагражаў вываз у Казахстан. Выкарыстаўшы заклік нямецкага ўрада да перасялення на радзіму продкаў, 6 сакавіка 1941 г. Юліяна разам з раднёй выехала ў Германію. Спачатку жыла ў лагеры для перасяленцаў, потым атрымала пашпарт і была накіравана ў Берлін,

дзе працавала перакладчыцай ў Беларускім аддзеле Міністэрства для патрэб вайны. Там яна зноў апынулася сярод беларусаў. Пасля 1945 г. зарабляла на жыццё лекцыямі. У верасні 1947 г. ад'ехала ў Заходнюю Германію ў Малерсдорф да пляменніцы Люсі, а ў красавіку 1951 г. — у Нюрнберг. Падтрымлівала сувязі з беларусамі ў Мюнхене, надрукавала на старонках "Бацькаўшчыны", часам пад псеўданімам Кветка Вітан, артыкулы "Чаму Іван Луцкевіч не пакінуў па сабе пісьменных працаў" (1954. № 30–31), "Рыцар Пагоні (На 75-ыя ўгодкі нараджэньня Івана Луцкевіча" (1956. № 22, 23).

Знаходзячыся ў Нюрнбергу, Юліяна напісала шэраг цікавых успамінаў пра многіх вядомых дзеячаў беларускага нацыянальнага руху, пра сябе і сваю радню. Асобнымі кніжкамі выйшлі: "Лявон Вітан-Дубейкаўскі" (Нью-Йорк, 1954); "Мае ўспаміны" і "Кароткія дадзеныя да біяграфіі Юліяны Дубейкаўскай з дому Мэнке", напісаныя ў Нюрнбергу ў 1953 і 1966 г. Яны былі аб'яднаны ў адну кнігу і выдадзены Таварыствам беларускай культуры ў Літве ў 1994 г. Папулярнымі сталі яе ўспаміны пра Цётку — Алаізу Пашкевіч-Кайрыс "Cor ardens" (1953) і І. Луцкевіча "Наша ніва" і Іван Луцкевіч", надрукаваныя на старонках часопіса "Конадні", які выдаваўся ў Нью-Йорку (1954. № 2; 1963. № 7). Першы з іх быў перадрукаваны ў беларускім выданні "На суд гісторыі: Успаміны. Дыялогі" (Мн., 1994.).

Памерла Ю. Менке ў 1970 г. у Нюрнбергу, але памяць пра яе захаваецца на Беларусі не толькі дзякуючы яе кнігам і публікацыям, але і інсцэніроўцы для монаспектакля "Віленскія мроі", падрыхтаванага актрысай Г. Дзягілевай, рэжысёрам Д. Марынінскім, Д. Саладухам (на вершы Надзеі Артымовіч) паводле "Успамінаў" Ю. Вітан-Дубейкаўскай. Монаспектакль, прэм'ера якога адбылася 24 кастрычніка 1996 г., — гэта палкая споведзь аб трагічным каханні, выяўленая Г. Дзягілевай з незвычайнай сілай эмацыянальнага ўздзеяння. Абаяльны вобраз Юліяны, створаны таленавітай актрысай, застанецца ў сэрцах удзячных беларусаў. Нездарма С. Станкевіч у артыкуле "У 75-ую гадавіну нараджэння Юльяны Дубейкаўскай", змешчаным у "Бацькаўшчыне" (1961. № 47) пісаў: "Аб ёй можна сказаць, што яна, хоць паводле паходжання Немка, але душой і сэрцам шчырая Беларуска".

***Уладзімір Сакалоўскі***

## ГАЛУЗА УЛАДЗІМІР

***Галуза Уладзімір Васільевіч** (19. 09. 1934, в. Новае Сяло Талачынскага р-на Віцебскай вобл.,) урач, кандыдат медыцынскіх навук, палкоўнік медыцынскай службы (1987), грамадскі дзеяч.*

У. Галуза нарадзіўся ў сям'і служачага, скончыў у 1953 г. сярэднюю школу ў Маладзечне. Вучыўся ў І-м Ленінградскім медыцынскім інстытуце імя акад. І. П. Паўлава, пасля заканчэння якога (1959) быў прызваны ў рады Савецкай Арміі. Воінскую службу праходзіў у Венгрыі, на Украіне, у Ленінградзе. У 1969 г., пасля заканчэння факультэта ўдасканалення ўрачоў Ваенна-медыцын-

скай акадэміі імя С. М. Кірава, быў накіраваны ў Сібірскую ваенную акругу, дзе служыў начальнікам тэрапеўтычнага аддзялення ваенных шпіталяў у Томску, Омску і Новасібірску. У 1987 г. быў звольнены з арміі ў запас па выслузе гадоў з пасады вядучага тэрапеўта Новасібірскага акружнога ваеннага шпіталя. З 1988 па 1994 г. працаваў урачом-тэрапеўтам, старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце агульнай паталогіі і экалогіі чалавека Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі медыцынскіх навук.

З 1994 г. У. Галуза актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю, накіраванай на вырашэнне пытанняў захавання самабытнасці беларусаў Сібіры, развіцця беларускай мовы, адукацыі, беларускай культуры. Быў удзельнікам I і II з'ездаў беларусаў свету, "Чарнобыльскага шляху – 89" у Мінску. Член Рады аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына", старшыня суполкі "Беларусы Сібіры" (з 1994 па 1999 г.), прэзідэнт Нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Новасібірска і Новасібірскай вобласці (з 1997 г.), намеснік старшыні каардынацыйнага савета Асацыяцыі нацыянальных арганізацый Новасібірска і Новасібірскай вобласці. Па яго ініцыятыве праведзена сустрэча беларусаў Заходняй Сібіры (1995), створаны аддзел беларускай літаратуры ў гарадской бібліятэцы (1995), беларускае тэлебачанне (1998), грамадскі беларускі культурны цэнтр (1998), адкрыта спецыялізацыя "Беларуская мова і беларуская літаратура" на філалагічным факультэце Новасібірскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта (1998), створаны беларускі вакальна-інструментальны ансамбль "Азарычы" (1999). З 1997 г. штогод праводзяцца абласныя фестывалі беларускай культуры, навукова-практычныя канферэнцыі "Культура і адукацыя нацыянальных меншасцей Сібіры". У 1997 г. праведзены грамадскія чытанні "480 гадоў усходнеславянскага кнігадрукавання", прысвечаныя Францыску Скарыне.



У. Галуза — аўтар больш за 100 навуковых прац, прысвечаных праблемам тэрапіі. Яго публікацыі таксама прысвечаны вывучэнню ўкладу беларусаў у асваенне і развіццё Сібіры, прапагандзе і адраджэнню беларускай традыцыйнай культуры Сібіры, абароне правоў беларусаў як нацыянальнай меншасці Сібіры.

Узнагароджаны 9-цю ўрадавымі ордэнамі і медалямі, знакам "Выдатнік аховы здароўя", сярэбраным медалём ВДНГ СССР.

У. Галуза падтрымлівае цесную сувязь з рэдакцыяй нашага бюлетэня, неаднаразова друкаваў у ім артыкулы.

***Уладзімір Драздоў*** *(Новасібірск)*

# КАРПОВІЧ АЛЕСЬ

***Карповіч Алесь (Аляксандр) Аляксандравіч*** *(12.04.1934, в. Рубанава Ветрынскага р-на, цяпер Полацкі р-н Віцебскай вобл.), інжынер, грамадскі дзеяч.*

А. Карповіч пасля заканчэння ў 1954 г. Дзісненскай сярэдняй школы праходзіў службу ў радах Савецкай Арміі (1954–1957). Вучыўся ў Рыжскім авіяцыйным вучылішчы спецыяльных служб грамадзянскай авіяцыі па спецыяльнасці радыёлакацыя (1957–1960). Працаваў тэхнікам у Краснаярскім аэрапорце (1960–1963). У 1963 г. пераехаў у Рыгу, дзе завочна вучыўся на радыётэхнічным факультэце Рыжскага політэхнічнага інстытута (1963–1970). З 1963 па 1969 г. працаваў на чыгунцы, на радыёрэлейнай сувязі ў г. Елгава. З 1969 г. працаваў у навукова-даследчым інстытуце радыёізатопнага прыборабудавання ў галіне радыёэлектронікі. У 1992 г. выйшаў на пенсію.



А. Карповіч з 1988 г. пачаў актыўна займацца грамадскай дзейнасцю. Прымаў непасрэдны ўдзел у стварэнні Таварыства беларускай культуры “Світанак”, быў выбраны сябрам Рады таварыства. Сабраў бібліятэку беларускіх кніг і часопісаў. Многа часу прысвячае грамадскай справе па адраджэнню беларускасці ў Латвіі. Пры яго непасрэдным удзеле стваралася Таварыства беларускай мовы “Прамень” (1990). Першы год ён выконваў абавязкі намесніка старшыні, потым на працягу 5 гадоў — старшыні таварыства. З 1997 г. — старшыня Рады ТБМ “Прамень”. Займаўся справай згуртавання сяброў ансамбля “Надзея” і сяброў ТБМ “Прамень” у адну суполку, арганізацыяй выдання газеты беларусаў Латвіі “Прамень”, Латвійскага фонду беларускай культуры. З пачатку арганізацыі фонду (1995) быў намеснікам старшыні, а з 1997 г. — старшынёй фонду. Дапамагаў беларусам рэгіёнаў Латвіі ў стварэнні суполак. А. Карповіч займаўся наладжваннем сяброўскіх адносін паміж суполкамі Латвіі. У далейшых планах А. Карповіча — стварэнне ў Рызе цэнтра беларускай культуры, пры якім павінна працаваць бібліятэка, кіёск беларускіх газет, кніжак і аўдыекасет з беларускімі песнямі.

М. Карповіч прымаў удзел у навуковых канферэнцыях, прысвечаных культуры беларускага замежжа, беларускаму кнігадрукаванню.

***Мікола Буры*** *(Рыга)*

## НАВУМАВЕЦ АНТОН

***Навумавец Антон Рыгоравіч** (2.01.1936, в. Рудка Пінскага р-на Брэсцкай вобл.), прафесар (1984), доктар фізіка-матэматычных навук, член-карэспандэнт НАН Украіны (1990), акадэмік НАН Украіны (1997), Сорасаўскі прафесар (1997), грамадскі дзеяч.*

А. Навумавец паходзіць з беларускай сям'і, яго бацька быў настаўнікам пачатковай школы. У 1952 г. з сярэбраным медалём скончыў сярэднюю школу г. Іванава Брэсцкай вобл. Вучыўся на радыёфізічным факультэце Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта імя Т. Шаўчэнкі. Пасля яго заканчэння (1957) працуе ў Інстытуце фізікі НАН Украіны ў Кіеве. З 1981 г. — загадчык аддзела фізічнай электронікі гэтага інстытута. У 1972–1993 гг. быў адказным сакратаром рэдкалегіі "Украинского физического журнала". Уваходзіць у склад рэдкалегіі да сённяшняга часу. Таксама з'яўляецца членам міжнародных рэдакцыйных саветаў часопісаў "Физика низких температур" (Украіна), "Physics of Low-Dimensional Structures" (Расія), "Surface Science" (Галандыя), "Progress in Surface Science" (ЗША), "Journal of Physics D: Applied Physics" (Англія). З 1983 па 1998 г. з'яўляўся намеснікам акадэміка-сакратара Аддзела фізікі і астраноміі НАН Украіны. У 1998 г. выбраны акадэмікам-сакратаром.



А. Навумавец — вядомы вучоны ў галіне фізікі паверхні цвёрдых цел і фізічнай электронікі. Ім адкрыты шэраг новых з'яў у звыштонкіх плёнках, маючых таўшчыню ў адзін атамны слой. З'яўляецца аўтарам і сааўтарам каля 150 навуковых даследаванняў, у тым ліку 2 манаграфій. Адна з іх — "Двухмерныя крышталі" (Кіеў, 1988) — з'яўляецца першай у свеце манаграфіяй, спецыяльна прысвечанай плоскім (двухмерным) крышталям. А. Навумаўцом апублікавана шмат аглядных артыкулаў па розных пытаннях фізікі паверхні ў часопісах "Успехи физических наук", "Физика низких температур", "Soviet Scientific Reviews", "Surface Science Reports", "Contemporary Physics", "Chemical Physics of Solid Surfaces", зборніку "Solitons" і інш. Яго працы шырока цытуюцца ў літаратуры, у тым ліку і ў базавых падручніках па фізіцы паверхні, выдадзеных у ЗША і ФРГ. Ён выступаў з дакладамі на многіх аўтарытэтных міжнародных канферэнцыях. А. Навумавец выкладае ў Кіеўскім універсітэце. Сярод яго вучняў — 3 дактары і 8 кандыдатаў навук.

А. Навумавец — лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР (1988) і Украіны (1997), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Украіны (1995).

***А. Нягрыйка** (Кіеў)*

## СЫЧЭЎСКІ ЯНКА

***Сычэўскі Янка** (26.03.1937, в. Стрыкі Бельска-Падляшскага пав. Беластоцкага ваяв., Польшча), педагог, грамадскі дзеяч.*

Я. Сычэўскі паходзіць з беднай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння базавай школы вучыўся у Педагагічным ліцэі у Бельску-Падляшскім, дзе пачаў вывучаць беларускую мову. Пасля яго заканчэння ў 1955 г. быў накіраваны на работу ў школу ў Чаромсе Вёсцы, пасля — у Арэшкава. Завочна вучыўся на аддзяленні фізікі ў Настаўніцкай студыі ў Торуні (1955–1959). Скончыў педагагічны факультэт Гданьскага універсітэта. У 1962–1964 гг. працаваў у Гайнаўцы на пасадзе сакратара Павятовага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў. З 1964 г. у Беластоку выконваў абавязкі дырэктара Дома культуры прафсаюзаў. З 1970 г. працаваў выкладчыкам ў Беластоцкім політэхнічным інстытуце, дзе вёў заняткі па псіхалогіі і сацыялогіі працы, педагагічнай адукацыі студэнтаў і маладых супрацоўнікаў інстытута. Апублікаваў больш за 10 навуковых прац як вынік даследаванняў у галіне педагогікі ВНУ.



Я. Сычэўскі займаецца грамадска-культурнай дзейнасцю. У 1991 г. быў выбраны намеснікам старшыні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, у 1993 і 1997 гг. — старшынёй Галоўнага праўлення БГКТ. У 1997 г. на парламенцкіх выбарах, якія прайшлі ў Польшчы, быў выбраны дэпутатам Сейма Рэчы Паспалітай III склікання. З 1973 г. — сакратар ваяводскага праўлення Таварыства прыяцеляў сям'і ў Беластоку.

Узнагароджаны многімі польскімі адзнакамі, а ўладамі Рэспублікі Беларусь — медалём Ф. Скарыны.

***Ірына Тамільчык***



## IN MEMORIAM

У ***Аўстраліі*** 9 мая памёр беларускі пісьменнік і журналіст ***Сымон Шаўцоў***. Яго творы ў апошні час друкаваліся на радзіме і ў Літве ("Мая адысея").

28 мая 1999 г. у ***Кракаве*** памёр польскі мастак ***Ян Лебенстэйн***. Нарадзіўся ён 5 студзеня 1930 г. у Брэсце. Доўгі час жыў у Францыі. Аўтар славутага цыкла "Бестыярый".

# ХТО ЁСЦЬ ХТО Ў БЕЛАРУСІСТЫЦЫ

## АСТРЫД ЗАМ

Астрыд Зам працуе ў Манхаймскім цэнтры сацыяльных даследаванняў у Еўропе. Асноўная тэма яе даследаванняў — Усходняя Еўропа.

Удзел у Другім палітычным паломніцтве евангельскай царквы Германіі ў 1989 г. выклікаў у А. Зам цікавасць да Беларусі. Недахоп нямецкамоўнай навуковай літаратуры пра Беларусь падштурхнуў яе прысвяціць дыпломную работу па курсу паліталогіі ва універсітэце Франкфурта-на-Майне тэме “Узнікненне беларускага нацыянальнага руху пад уплывам палітычных вынікаў аварыі на атамным рэактары ў Чарнобылі ў 1986–1991 гг.”. Затым яна працавала над дысертацыяй пра змены беларускай і ўкраінскай атамнай энергетыкі і чарнобыльскіх праблем у 1990–1995 гг. Актыўна разглядала таксама пытанні, звязаныя з агульнапалітычным развіццём Беларусі, са значэннем гістарычных фактараў у сучасным палітычным жыцці Беларусі. Менавіта гэтай тэме прысвечаны яе шматлікія публікацыі.



Для А. Зам асабліва важна аб’яднаць навукова-тэарэтычныя і грамадска-практычныя інтарэсы дзеля большага даверу ў беларуска-нямецкіх адносінах, дзеля ажыццяўлення беларуска-нямецкіх сумесных праектаў. Яна прымала ўдзел у рабоце камітэта “Жыццё пасля Чарнобыля”, які займаўся будаўніцтвам цэнтра дзіцячага адпачынку “Надзея” каля Вілейкі. Уваходзіла ў склад інтэрнацыянальнай групы па нагляду за парламенцкімі выбарамі 1995 г. у Беларусі.

***Кацярына Любецкая***

## САРДЭЧНА ВІНШУЕМ

Акадэміка ***Віктара Каваленку***, які стаяў ля вытокаў руху беларусістаў, аўтара шматлікіх кніг па гісторыі беларускай літаратуры, — з 70-годдзем з дня нараджэння!

Беларусіста ***Германа Бідэра*** (Аўстрыя) з прызначэннем дырэктарам Інстытута славістыкі Зальцбургскага універсітэта і пачаткам будаўніцтва ўласнага дома!

Прафесара Гомельскага універсітэта ***Уладзіміра Анічэнку***, аднаго з сузаснавальнікаў МАБ, — з 75-годдзем з дня нараджэння і выхадам кнігі ўспамінаў “Повязі лёсу”!

### DIANA SIEBERT. BÄUERLICHE ALLTAGSSTRATEGIEN IN DER BELARUSSISCHEN SSR (1921–1941): DIE ZERSTÖRUNG PATRIARCHALISCHER FAMILIENWIRTSCHAFT. STUTTGART: FRANZ STEINER VERLAG, 1998. 416 S.




У канцы мінулага года на паліцах нямецкіх кнігарняў з'явілася аб'ёмістая (416 с.) манаграфія маладой нямецкай славісткі, доктара гісторыі Дзіяны Зіберт "Сялянская паўсядзённая стратэгія ў Беларускай ССР (1921–1941)". Структура працы, багаты фактычна матэрыял, шматлікія карты, дыяграмы, табліцы пераканаўча раскрываюць, як у БССР праходзіла калектывізацыя і як рэагавала на яе сялянства.

Пасля ўводзінаў даецца кароткі экскурс у гісторыю Беларусі, які з'яўляецца тым больш важным, што ў Германіі існуюць не зусім пэўныя ўяўленні пра наш край. Яго пашыраюць матэрыялы пра дэмаграфічныя працэсы ў Беларусі канца XIX – пачатку XX ст. Для пераканаўчага раскрыцця тэмы даследчыца канцэнтруе ўвагу на важнейшых аспектах — такіх, як "Аграрная палітыка БССР паміж дзяржаўнымі і сялянскімі інтарэсамі", што і вызначала стратэгію беларускага сялянства на працягу некалькіх этапаў:

1) прадразвёрстка, замена яе прадпадаткам, увядзенне нэпа (1921–1924);
2) стварэнне інтэнсіўнай гаспадаркі (1925–1928);
3) гвалтоўная калектывізацыя (1929–1939);
4) стабілізацыя калгаснай сістэмы (1939–1941).

На першым этапе ярка праяўляліся дзве тэндэнцыі — актыўнае супраціўленне: партызанская вайна, паўстанні, набегі, бунты, знішчэнне "ворага" ваеннай сілай і пасіўнае: хаванне і знішчэнне прадуктаў, забойства і продаж жывёлы, перасяленне ў горад. У галіне аграрнай палітыкі — гэта стварэнне кааператываў, камун, калгасаў, у тым ліку нацыянальных калгасаў, але, нягледзячы на першачарговае іх крэдытаванне, лепшыя надзелы зямлі, дапамогу тэхнікай, яны распадаюцца, многія існуюць на паперы. Для прыватных гаспадарак уводзяцца ашчаджальныя падаткі, праводзіцца спрыяльная зямельная палітыка — надзелы зямлёй, крэдытаванне, дазвол на вольны тавараабмен, продаж на цвёрдую валюту.

Для другога этапу характэрны:

1) дзяленне сялянскіх двароў, хутарызацыя, спроба пераходу да інтэнсіўнай гаспадаркі па прыкладу Даніі — “прышчэпаўскі” план развіцця аграрнага сектара, павышэнне падаткаў, добраахвотная міграцыя ў горад і іншыя рэспублікі, выезд за мяжу (1 300 000 чалавек было жадаючых выехаць у Польшчу);

2) адказ ад хутарызацыі (1925), забарона хутароў (1929), накірунак на прымусовую калектывізацыю, пераход ад натуральнага абмену таварамі да товарна-грашовых адносін. Аднак забеспячэнне таварамі як праз закупкі, так і праз рынак было незадавальняючым — людзі жылі бедна.

Няздольнасць дзяржавы кантраляваць працэсы ў вёсцы пры дапамозе цэн, грашова-таварнага абмену штурхала да прымусовай калектывізацыі. Масква перайшла да рашучых мер. Распачынаецца эканамічны і палітычны націск на прыватны сектар: падаткі, пабора, забароны, надлом вясковай салідарнасці, падзел грамадзян на сваіх і чужых, раскол сям’і (супрацьпастаўленне мужчын і жанчын), — усё гэта паступова пераходзіць у дзяржаўны тэрор: пачынаюцца раскулачванне, прымусовая ліквідацыя хутароў, дэпартацыя, вышукванне “ворагаў народа” і нарэшце — юрыдычны тэрор, сталінскі загад 1932 г. аб расстрэлах за сабатаж і раскраданне дзяржаўнай маёмасці. Пачынаецца бегства з калгасаў, актыўнае ўзброенае супраціўленне — набегі, забойствы (за 1927–1929 гг. адбылося 1 637 падпалаў, каля 80 узброеных паўстанняў, пра што маўчаць савецкія гісторыкі), уцёкі за мяжу, кантрабанда і паступовы пераход да пасіўнага супраціўлення, адказу ад працы (людзі працавалі мала і абы-як). Аднак і ўвядзенне нормаў, працадня, кніжак калгасніка, мінімума выхадаў на работу ў калгасе не стала трывалай асновай яе ацэнкі, вяло да жахлівага бюракратызму. Працоўная мараль падмянялася сацспаборніцтвам і пагрозамі рэпрэсій. Сярод кіраўніцтва распаўсюдзіліся сямейнасць і карупцыя. Зверху аддаваліся некампетэнтныя загады. Дайшло да абсурду — у 1933 г. ЦК ВКП(б) была прынята пастанова, каб кожны дзень чысцілі коней і своечасова ўбіралі гной. Распаўсюдзіліся зайздрасць, даносы, зводзіліся старыя рахункі. Так ствaралася ў БССР савецкая гаспадарка. І толькі калі была рэальна ўжыта сістэма здзельнай аплаты працы, супрацьстаянне пачало згладжвацца.

У канцы 30-х гг. супраціўленне змяняецца стратэгіяй дапасавання. Дзяржава ідзе на ўступкі: раздачу прысядзібных участкаў, дазвол на трыманне каровы і свіней. Праз “канкурэнцыю” паміж жанчынай і мужчынай, праз тэхнічны і сацыяльны бок арганізацыі працы, эканамічны, палітычны, юрыдычны ўціск дзяржава стабілізавала становішча ў вёсцы.

Некампетэнтнасць людзей, дыктатарскія метады дзяржавы, якая ажыццяўляла планы, няхай сабе вонкава і прывабныя, але супярэчныя з штодзённай сялянскай логікай, на самай справе адштурхнулі сялян ад калектывізацыі. У такім няроўным супрацьстаянні яны былі гвалтоўна пераможаны.

Праца, на нашу думку, не пазбаўлена некаторых недаглядаў. Мы мяркуем, што недастаткова ўвагі ўдзелена іншаму шляху развіцця сялянства — “прышчэпаўскаму”, а яшчэ раней “бээнэраўскаму”. Не зусім удала гучыць вызначэнне “стра-

тэгія”. Мы лічым, што ў беларускага сялянства не было выпрацаванай стратэгіі і нават тактыкі, а была рэакцыя на адпаведную стратэгію бальшавікоў, якія імкнуліся зламаць стары сялянскі ўклад жыцця, сямейныя і грамадска-сацыяльныя адносіны ў вёсцы.

Варта было б звярнуць увагу і на такія аспекты сялянскага жыцця, як адукацыя, рэлігія, арганізацыя адпачынку, што, безумоўна, дало б магчымасць глыбей пранікнуць у псіхалогію сялянства, у яго адносіны да бальшавізму і калектывізацыі (асабліва вызначаюцца антыкалгасныя частушкі: “А ў калгасе добра жыць: адзін робіць — сем ляжыць”, “Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рызіну” і інш.). Нам здаецца немэтазгодным ужыванне беларускіх слоў у нямецкіх ці рускіх формах. У бібліяграфіі сустракаюцца недакладнасці ў лацінскай траслітарацыі некаторых беларускіх крыніц.

Аднак такія дробныя ўпушчэнні не могуць засланіць для нас значнасць і актуальнасць выдання. Гэтая неардынарная праца дзякуючы сваёй адметнай пазіцыі, грунтоўнасці і кампетэнтнасці стане важкім укладам у нямецкую славістыку. Яна будзе карыснай і для беларускіх даследчыкаў распрацоўкай праблемы “стратэгіі” беларускага сялянства. А некаторыя раздзелы (пра хутары, якім прысвечана магістэрская праца Д. Зіберт, супраціўленне сялянства, становішча жанчыны ў калгасе) з’яўляюцца новым і арыгінальным крокам у даследаванні праблемы.

***Уладзімір Сакалоўскі**, кандыдат філалагічных навук*

## АНДРЭЙ ЧЭМЕР. ВЫБРАНЫЯ БОГАМ. VILNIUS: SAVERENAS, 1999. 224 с.




З акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук астранаўтыкі Барысам Кітам, героем чарговай кніжкі Андрэя Чэмера, мне пашчасціла сустракацца чатыры разы: два — у нямецкім горадзе Франкфурце-на-Майне, дзе ён цяпер жыве, і два — у Мінску. З Франкфурта мы разам ездзілі (прафесар бездакорна вёў жоўтую “Таёту”) у Ляймен, дзе з яго дапамогай пісьменнік-эмігрант Юрый Попка ў свой час заснаваў беларускі музей, і ў Бон, да тагачаснага беларускага амбасадара Пятра Садоўскага. У Мінску ж Барыс Кіт наведаў Цэнтр імя Ф. Скарыны, дзе ў музеі “Беларусы ў свеце” яму прысвечаны стэнд і вітрына, гаварыў пра справы МАБ.

І ўсё ж кніга “Выбраныя Богам” — не толькі пра Барыса Кіта, але і пра яго пака-

ленне, пра яго вучняў з Навагрудскай беларускай гімназіі і Маладзечанскай школы. Да іх ліку належыць і аўтар кнігі, віленскі пісьменнік Андрэй Чэмер (як беларускі грамадскі дзеяч ён вядомы пад уласным прозвішчам — Аляксей Анішчык). Апошнія гады для яго — сапраўдны “зорны час”: апрача трох зборнікаў вершаў (па-беларуску, па-руску і па-польску) ён яшчэ выдаў успаміны пра Навагрудскую беларускую гімназію і дакументальную кнігу пра беларускага пісьменніка-эмігранта Сяргея Хмару, які нядаўна памёр у Канадзе.

Новая кніга Андрэя Чэмера напісана нязвычна: строга дакументальнае апавяданне спалучаецца з вершаваным. Выданне багата, можа быць, празмерна багата, ілюстравана — трапляюцца здымкі неабавязковыя, у тым ліку і аўтара гэтых радкоў.

Уступнае слова да “Выбраных Богам” напісаў прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі Валдас Адамкус. Ацэньваючы дзейнасць аўтара, ён піша: “Сардэчна рад Вашай дзейнасці па захаванню традыцыйных і стварэнню новых вартасцей”. Далей жа гаворыцца пра суседскасць нашых краін, пра “супольную гістрычную мінуласць”.

Разам з кнігай (а фактычна дзвюма кнігамі) пра Барыса Кіта Лідзіі Савік дакументальны і адначасова эмацыянальны нарыс Андрэя Чэмера стварае прывабны вобраз нашага таленавітага, сапраўды вялікага суайчынніка.

***Адам Мальдзіс**, доктар філалагічных навук*

## ЛЕАНІД МАРАКОЎ. ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ: ЛЁС, ХРОНІКА, КАНТЭКСТ. Мн., 1999. 192 с.




Выдавецтва “Беларускі кнігазбор” толькі што выдала унікальную кніжку пра паэта Валерыя Маракова накладам у 100 асобнікаў. Гэта збор дакументаў, фрагментаў з даследаванняў, успамінаў пра паэта, яго час, пра ягоных сяброў і ворагаў, урэшце, — аб трагічных 1930-х гг. Па сутнасці, адкрыццё яшчэ аднаго вялікага пакутніка за Беларусь. Апошнім часам нашае літаратуразнаўства крыху забылася пра яго. Праўда, у 1959 і 1989 гг. выйшлі сціплыя кніжкі выбраных твораў В. Маракова (знявечаныя цэнзарам). Час ад часу друкаваліся фрагменты з успамінаў паэтаў, сведкаў тых гадоў — А. Звонака, С. Грахоўскага, С. Шушкевіча, іншых Богам выратаваных беларусаў з пакалення “Маладняка” і “Узвышша”. Яны не забывалі сказаць добрае слова пра паэта і добрага чалавека.

У 3-м томе “Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі” ёсць сціслая і недакладная нататка: “Маракоў Валерый Дмітравіч [14(27).3.1909, в. Акалонія, цяпер у межах Мінска – 7.5.1940], беларускі сав. паэт. Скончыў Бел. вышэйшы пед. ін-т (1934). Працаваў мулярам, настаўнічаў у Бабруйску. Друкаваўся з 1925. Паэзія М. вызначаецца пафасам маладосці, вітання жыцця і сацыяліст. будаўніцтва, героікай рэвалюцыі і апяваннем новай явы (хоць у ранніх творах не пазбег сумных настрояў)…”. За “сумнымі настроямі” якраз хавалася (але заўсёды пры “саветах з бальшавікамі”) сапраўдная паэзія. Да таго ж бальшавікі здзейснілі сваё забойства за тры гады да ягонай сфальшаванай “афіцыйнай” смерці. Усе савецкія дэфініцыі грунтаваліся на ўрэзанай праўдзе і татальнай хлусні. Леанід Маракоў прыводзіць фрагмент з апублікаванага ў “Літаратуры і мастацтве” (1993. 8 студз.) артыкула, напісанага вядомым даследчыкам: “Паэты А. Дудар, М. Чарот, М. Зарэцкі, П. Галавач, А. Вольны, В. Каваль, В. Сташэўскі, В. Маракоў Выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР, якая лютавала ў Мінску ў канцы кастрычніка 1937 г., былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Прыгавор быў выкананы назаўтра ж, 29 кастрычніка 1937 г. Напэўна, такога ніколі не было ў гісторыі сусветнай цывілізацыі, каб тая ці іншая нацыя страціла ў адзін дзень адразу восем паэтаў. А можа, і больш” (на самой справе — 17).

Кніга пра В. Маракова і яго сучаснікаў – пакутнікаў за Беларусь складаецца з біяграфічнай нататкі, напісанай паводле ўспамінаў сучаснікаў узлёту і гібелі былых маладнякоўцаў і ўзвышаўцаў і унікальнай хронікі за 1925–1999 гг. Прыводзяцца рэдкія дакументы, часта — упершыню, урыўкі з успамінаў, даследаванняў беларускіх і замежных аўтараў, праграмныя вершы В. Маракова, фрагменты з рэцэнзій на яго вершы, напісаных майстрамі прабальшавіцкай вульгарна-сацыялагічнай антыэстэтыкі. Моцна ўражвае раздзел “Крыжовы шлях”. Там друкуюцца пратаколы арыштаў і псеўдасудовых прысудаў, шматлікія сведчанні пра фізічнае і маральнае катаванне выдатных пісьменнікаў. Гэта быў арганізаваны на ўзроўні ЦК КП(б) і Вярхоўнага Суда СССР генацыд, знішчэнне эліты беларускай інтэлігенцыі з прымяненнем катаванняў. Кнігі і архівы сваіх ахвяр бальшавіцкія забойцы, як правіла, спальвалі.

Аўтар кнігі — пляменнік паэта, фізік па адукацыі — сабраў унікальны матэрыял не толькі пра свайго гераічнага дзядзьку, забітага на 28-м годзе жыцця. Апрача літаратурных крыніц у кніжцы публікуюцца рэдкія фатаграфіі, партрэты (асабістыя, групавыя, з асабовых спраў прыгавораных да смяротнай казні, у тым ліку тыя, што яшчэ не публікаваліся ). Усё гэта — жывы матэрыял для таго, каб падрыхтаваць навукова-літаратурную біяграфію Валерыя Маракова і, шырэй, пакутніцкай Беларусі 1930-х гг. Гэта пра нашых пакутнікаў і наш час прарочыў Ігнат Канчэўскі ў вершы прозаю “Мы разам…” (1923): “Не відаць вас, брацьця, у крывавым тумане на дымным шляху гаманлівай штодзённасьці. Але ўсе мы разам, *бо нас злучае* […] супольнасьць ахвяры”.

***Уладзімір Конан,*** *доктар філасофскіх навук*

# НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банькоўскі-Цюліг*** *(Швейцарыя),* ***Юрась Вашкевіч*** *(Польшча),* ***Венета Геаргіева*** *(Балгарыя),* ***Раіса Жук-Грышкевіч*** *(Канада),* ***Мікалай Ількевіч*** *(Расія),* ***Адам Мальдзіс****,* ***Леакадзія Мілаш*** *(Літва),* ***Таццяна Махнач****,* ***Таццяна Пятровіч****,* ***Міхал Швэдзюк*** *(Вялікабрытанія).*

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям. З публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў газетах, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі Цэнтра імя Ф. Скарыны.

## БАЛГАРЫЯ

**Герасименко Алес.** Майсторството на съавтора (за автора и идеите в “Песен за зубра”, по повод превода на български) // Български писател. 1999. 8 юни.

## БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Антонович Иван.** После современности // Arche: Постмадэрнізм. 1999. № 1. С. 206–217.

**Антонович Иван.** Тысячелетия религии любви // Бел. думка. 1999. № 6. С. 25–33.

**Баўтовіч Міхась.** Балтызмы ў беларускіх гаворках як адзнака этнічных працэсаў // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 21–23 красавіка 1997 г. Полацк, 1998. С. 31–39.

**Бровка Г. М.** Подготовка иностранных студентов инженерных специальностей в вузах Германии, России и Беларуси. Минск, 1998.

**Ваніцкі Арсен.** Мінск, Захарава 28. Дом дружбы: Адценні жыцця: Урыўкі з главы “У імя будучага” // Голас Радзімы. 1999. 24 чэрв. – 1 ліп.

**Ганецкая Ірына.** Асаблівасці Полацкага дойлідства XI–XII стст. у рэчышчы развіцця архітэктуры Цэнтральнай і Заходняй Еўропы // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 21–23 красавіка 1997 г. Полацк, 1998. С. 71–76.

**Дагавор** аб Еўрапейскім Саюзе. Мн., 1998.

**Дзярновіч Сяргей.** Аб знаходжанні нарманаў у Полацку ў IX–XII стст. // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 21–23 красавіка 1997 г. Полацк, 1998. С. 90–94.

**Екадумов Андрей.** Бездомная нация из европейского дома // Arche: Постмадэрнізм. 1999. № 1. С. 199–205.

**Емяльянчык Вольга.** Антрапалагічныя аспекты славянізацыі Беларускага Падзвіння (да пастаноўкі праблемы) // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 21–23 красавіка 1997 г. Полацк, 1998. С. 100–107.

**Ершова Татьяна** [Пскоў]. Этнокультурные контакты населения Пскова с балтами: (По материалам дореволюционной коллекции) // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 21–23 красавіка 1997 г. Полацк, 1998. С. 111–116.

**Кабашнікаў К. П.** Малыя жанры беларускага фальклору (прыказкі, прымаўкі, загадкі) у славянскім кантэксце. Мн., 1998: (Рэферат К. П. Кабашнікава) // Беларусістыка. Рэфератыўны зборнік: Гуманітарныя і сацыяльныя навукі. Мн., 1999. № 30. С. 205–209.

**Капранова В. А.** Проблема оценки качества высшего образования в Европе: подходы и решения // Адукацыя і выхаванне. 1999. № 5–6. С. 102–105.

**Лыч Леанід.** У лабірынтах асіміляцыі: З гісторыі // Маладосць. 1999. № 4. С. 206–225.

**Лявонава Е. А.** “І няма нічога вышэйшага…”: Творчасць Максіма Гарэцкага ў кантэксце заходнееўрапейскай літаратуры пра Першую сусветную вайну // Лявонава Е. А. Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў. Мн., 1998. С. 299–306.

**Лявонава Е. А.** “Палову жыцця падаюся ў свет, палову — варочаюся са свету…”: Алесь Разанаў і філасофска-эстэтычныя пошукі ў еўрапейскай літаратуры // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 307–332.

**Лявонава Е. А.** “У абарону розуму, супраць цемрашальства і гвалту”: Яраслаў Гашак і Ліён Фейхтвангер: два раманы // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 172–181.

**Ляшкевіч Юрась.** Еўропа і Беларусь: Міжнародная супольнасць // Голас Радзімы. 1999. 13–20 мая.

**Малоха М.** Фразеологизмы с концептом “дерево” в зеркале народной культуры: На материале восточнославянского и польского языков. Минск, 1998.

**Мартысюк П. Г.** Идея прогресса в европейской культуре: становление и эволюция. Минск, 1998.

**Ненадавец Аляксей.** Незаслужана забыты: [Пра польскага, беларускага і літоўскага гісторыка Тэадора Нарбута] // Полымя. 1999. № 5. С. 212–225.

**Піскун Зміцер.** Belarusian Slang // Arche: Постмадэрнізм. 1999. № 1. С. 198.

**Сінкевіч Т. І.** Славянскія, балцкія і фіна-угорскія фарманты ў назвах азёр Віцебшчыны // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 4. 1999. № 1. С. 53–56.

**Системные** аспекты плана содержания слова в древнеславянском тексте / А. Е. Супрун, А. А. Кожинова, Е. С. Суркова, Л. Р. Супрун-Белевич. Минск, 1998.

**Снапкоўскі У. Е.** Знешнепалітычная дзейнасць Беларусі, 1944–1953 гг. / Пад рэд. Ю. П. Броўкі. Мн., 1997: (Рэферат Л. Ч. Дрожжы) // Беларусістыка. Рэфератыўны зборнік: Гуманітарныя і сацыяльныя навукі. Мн., 1999. № 30. С. 147–152.

**Сокольницкий Михал.** Изложение мотивов с последующим изложением общих соображений по поводу политики России и Англии по отношению к Европе // Бел. гіст. часоп. 1999. № 2. С. 31–36.

**Стальмахоў Валянцін.** Браты па музе і па лёсе: Аляксандр Пушкін і Адам Міцкевіч // Літ. і мастацтва. 1999. 7 мая.

**Стратегия** устойчивого развития и перспективы цивилизационной динамики на рубеже веков: Материалы междунар. науч. конф. (г. Минск, 21–22 мая 1998 г.): В 2 ч. / Редкол.: А. И. Зеленков и др. Минск, 1998.

**Сянько Таццяна.** Агрэсіўнасць як сацыяльная псіхалагічная праблема: Па матэрыялах зарубежных публікацый // Нар. асвета. 1999. № 6. С. 14–18.

**Чарнякевіч Андрэй.** Гарадзенскія апосталы: Беларускі нацыянальны рух: Гародня. 1918–1920 гг. [Гродна, 1999]

**Чарота І. А.** Мастацкі пераклад на беларускую мову (асновы тэорыі і практычныя рэкамендацыі): Вучэб. дапам. па курсу “Тэорыя і практыка пер. ”, а таксама па спецыялізацыі “Маст. пер. ”. Мн., 1997.

**Шаблоўская І. В.** Драма абсурду ў славянскіх літаратурах і еўрапейскі вопыт. Паэтыка. Тыпалогія. Мн., 1998.

**Шніп Людміла.** “Літаратурны экспрэс – 2000”: [З Лісабона — праз Беларусь — у Берлін] // Голас Радзімы. 1999. 10–17 чэрв.

**Daneiko Elena.** Slavianski Bazar music festival // Belarus’ Today. 1999. June. 1–7.

**Daneiko Elena.** Women’s festival returns: [Пра Міжнародны фестываль жаночага кіно] // Belarus’ Today. 1999. May. 1–7.

**The 5th women’s** film [міжнародны] festival // Belarus’ Today. 1999. May. 25–31.

**Ratobylskaya Tatiana.** Puppet theater [міжнародны] festival stopped // Belarus’ Today. 1999. June. 8–14.

**Yarovenko Maria.** Advertising [міжнародны] festival debuts in Minsk // Belarus’ Today. 1999. June. 22–28.

### • Беларусь – ААН

**Первый** периодический доклад по осуществлению положений Конвенции ООН о правах ребенка: 1 чэрвеня — Міжнародны дзень аховы дзяцей // Адукацыя і выхаванне. 1999. № 5–6. С. 3–44.

### • Беларусь – Азербайджан

**Карлюкевіч Алесь.** Азербайджанскі мой суайчыннік: Мастак Каміль Камал спрабуе расказаць пра ўвесь Сусвет адразу // Беларусь. 1999. № 5–6. С. 28–29.

**Карлюкевіч Алесь.** Чужая памяць Каміля Камала: [Пра мастака-азербайджанца, які жыве ў Беларусі] // Літ. і мастацтва. 1999. 4 чэрв.

### • Беларусь – Албанія

**Мудроў Вінцэсь.** Мідзьені (1911–1938); Урокі італьянскай: [Пра класіка албанскай літаратуры Міламша Дзьердзя Ніколу] // Калосьсе. 1998. № 6. С. 23, 26–27.

### • Беларусь – Аўстрыя

**Лявонава Е. А.** Паблізу воблакаў і ветру: Штрыхі да філасофска-эстэтычнага партрэта Райнера Марыя Рыльке // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 135–152.

**Лявонава Е. А.** Сумленне супраць гвалту: Лёс і творчасць Стэфана Цвэйга // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 195–207.

**Шыдлоўскі Сяргей.** Хэпінг “Прысуд”: [Рэц. на: Кафка Ф. Прысуд: апавяданьні і мініятуры / Пер. Л. Баршчэўскага, прадм. П. Васючэнкі. Мн., 1996] // Калосьсе. 1998. № 6. С. 139.

## • Беларусь – Балгарыя

**Хорсун Светлана.** Пока горит духовности свеча: [Інт. з Васілём Петкавым, Часовым Павераным Рэспублікі Балгарыя ў Беларусі ] // 7 дней. 1999. 29 мая.

## • Беларусь – Ватыкан

**Костюгова Елена.** День рождения папы // Бел. деловая газ. 1999. 19 мая.

**Siódma** pielgrzymka Ojca Świętego do Polski: “Bóg jest miłością” // Głos znad Niemna. 1999. 21 maja.

**Szkudelska Iwona**. “Kochamy i czekamy!”: [Пра ўдзел беларусаў і літоўцаў у сустрэчы з папай рымскім у Элку] // Głos znad Niemna. 1999. 11 czerw.

## • Беларусь – Вялікабрытанія

**Алькоўскі-Лэтц Даратэя**. Постмадэрная мова ў мастацтве / Пер. з англ. Паўла Баркоўскага // Arche: Постмадэрнізм. 1999. № 1. С. 226–243.

**Барабаншчыкава Вольга.** Стагоддзе Гамлета // Літ. і мастацтва. 1999. 21 мая.

**Башурова О. И., Шиханцова Л. М.** Английский язык: Практикум: для студентов 1-го курса всех специальностей. Гомель, 1998.

**Зайцев Борис.** Зловещая тайна Шарлотты Бронте [англійскай пісьменніцы] // Совет. Белоруссия. 1999. 17 июня.

**Изучение** английского языка с видео: Учеб. пособие к видеофильмам: На англ. яз. / Сост. Лаптева О. А., Петрашкевич П., Шарабчиева Е. В. Минск, 1998.

**Кенэлі Томас.** Сямейнае вар’яцтва: Урыўкі з раману / Пер. з англ. Яна Максімюка // Калосьсе. 1998. № 6. С. 5–21.

**Маслыко Е. А., Бабинская П. К., Леонтьева Т. П.** Английский язык с друзьями: Учеб. пособие для 4-го кл. общеобразоват. шк. Минск, 1998.

**Система** школьного образования в Великобритании: Метод. указания и учеб. материал по развитию навыков уст. речи / Сост. Т. Н. Тадеуш. Могилев, 1998.

**Степанов В. А.** Специфика организации и содержания обучения в высших учебных заведениях Великобритании // Адукацыя і выхаванне. 1999. № 5–6. С. 98–101.

**Христорожденственская Л. П.** Английский язык. Практический курс = English. Intermediate Course: В 2 ч. Минск, 1998.

**Soars J., Soars L.** Headway: Workbook pre-intermediate. Minsk, 1998.

## • Беларусь – габрэі

**Пульша Сяргей.** Смерць хэпі-эндам: [Пра спектакль “Тойбеле і яе дэман” у пастаноўцы Якава Натапава] // Бел. маладзёжная. 1999. 7 мая.

## • Беларусь – Германія

**Вашко Лявон.** Улада песьнясьпеву: [Рэц. на: Шылер Ф. Улада песьнясьпеву. Пераклады, дасьледаваньні. Мн., 1997] // Калосьсе. 1998. № 6. С. 139–140.

**Ветка С.** Музыканты “перачытваюць” Гётэ // Літ. і мастацтва. 1999. 4 чэрв.

**Врангель Карын фон.** “Інстытут імя Гётэ працуе на будучыню”: [Інт.] / Зап. Пётры Васілеўскага // Літ. і мастацтва. 1999. 14 мая.

**Высшее** аграрное образование Германии: Зарубеж. опыт / Р. А. Цыганов, В. П. Кругленя. Минск, 1998.

**Дашчынскі Алесь.** Палітычная цана эканамічнага супрацоўніцтва: [Інт. з аўтарам кнігі “Беларусь: дыктатура ў сэрцы Еўропы?” Хайнцам Тымерманам] // Навіны. 1999. 12 мая.

**Зусім** іншыя немцы: Іх прывялі ў нашую краіну не службовыя абавязкі і не імкненне падзарабіць, а нешта іншае — адчуванне гістарычнай адказнасці і жаданне дапамагчы / Зап. Уладзіміра Панады // Беларусь. 1999. № 5–6. С. 12–14.

**Лявонава Е. А.** “Ва ўсім павінен быць сэнс”: Чалавек і гісторыя ў рамане другой паловы XX ст. Ганс Вернер Рыхтэр “Не забі” // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 268–271.

**Лявонава Е. А.** “Ладдзя — мая, твае на ёй тавары”: Паэма Томаса Стэрнса Эліята “Попельная Серада”: традыцыя і індывідуальнасць // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 233–251.

**Лявонава Е. А.** “Найвялікшая асалода — мысліць…”: Бертальд Брэхт і яго тэорыя “эпічнага тэатра” // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 207–233.

**Лявонава Е. А.** Паэтыка душы ў творах Германа Гесэ: Раман “Стэпавы воўк” // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 162–171.

**Лявонава Е. А.** Прага духу: Генрых Ман і яго раман “Вернападданы” // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 153–162.

**Лявонава Е. А.** “Уся праўда патрэбна”: Раман Германа Канта “Прыпынак у дарозе”: жанр і стыль // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 281–288.

**Лявонава Е. А.** Флакон Жана-Батыста Грануя, або Закон захавання гвалту: [Пра нямецкага пісьменніка П. Зюскінда] // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 288–297.

**Носков С. А.** Самоучитель немецкого языка. Минск, 1998.

**Пашкевич Алесь.** [Рэц. на: Шылер Фрыдрых. Улада песняспеву. Мн., 1998] // Нёман. 1999. № 5. С. 243–246.

**Практикум** по немецкому языку: Для студентов по специальности “Музееведение/Архивоведение” / Сост. Л. М. Долгова. Минск, 1998.

**Ражковіч А.** На шляху да славы: Людвіг ван Бетховен // Бярозка. 1999. № 6. С. 28.

**Рублеўская Людміла.** Берлінскі міф, або Падарожжа па брукаванцы: Імпрэсіўныя нататкі // Літ. і мастацтва. 1999. 18 чэрв.

**Саўчык Святлана.** Наш чалавек на Берлінале: [Пра Берлінскі кінафестываль] / Зап. Вольгі Барабаншчыкавай // Літ. і мастацтва. 1999. 7 мая.

**Стральцова Вераніка.** Належыць чалавецтву: [Пра “круглы стол” “Гётэ і Беларусь”] // Літ. і мастацтва. 1999. 11 чэрв.

**Фатыхава Галіна.** У нямецкім Людвігсгафене: [Пра выстаўку мастачкі Вольгі Даманавай] // Літ. і мастацтва. 1999. 21 мая.

**Шаўчэнка А. С.** Феномен камічнага ў баладах І.-Р. Бехера // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 4. 1999. № 1. С. 36–39.

### • Беларусь – Данія

**Фяненка Сяргей.** Danish Hope for Belarusian Cinema: Ларс фон Трыер і “Догма-95” // Arche: Постмадэрнізм. 1999. № 1. С. 244–246.

### • Беларусь – ЗША

**Асновы** журналістыкі: Амерыканскі досвед: Уклад. журналістамі-практыкамі Злучаных Штатаў і Еўропы / Пер. з англ. Мн., 1998.

**Вашко Лявон.** Жывая кніжка: [Рэц. на: Архіўная кніга: У. Дудзіцкі, Х. Ільляшэвіч, У. Клішэвіч, У. Сядура-Глыбінны, М. Вярба, Ю. Віцьбіч / Аўтар-уклад. Л. Юрэвіч. Нью-Ёрк, 1997] // Калосьсе. 1998. № 6. С. 141–142.

**Вашко Лявон.** Стары Запавет: [Рэц. на: Віцьбіч Юрка. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Нью-Ёрк, 1996] // Калосьсе. 1998. № 6. С. 143.

**Вярбоўская Вацлава.** Неабыякавыя да чужой бяды: [Пра беларускіх дыпламатаў у ЗША] // Літ. і мастацтва. 1999. 4 чэрв.

**Дубянецкі Эдуард.** Акіян — не перашкода: Лявон Юрэвіч [у ЗША] зрабіў грунтоўныя каментарыі да праблем беларускага літаратуразнаўства // Голас Радзімы. 1999. 10–17 чэрв.

**Звезда** Монро / Подгот. текста Н. Белова. Минск, 1998.

[**Кекелева Тацццяна**]. Сьпявак Сэлях-Качанскі: [Пра беларускага эмігранта ў ЗША] / Прадм., публ., заўв. і камент. Т. Кекелевай // Спадчына. 1999. № 2. С. 172–182.

**Козік Алесь.** Паміж “крывічамі” і “беларусамі”: [Рэц. на: Архіўная кніга: У. Дудзіцкі, Х. Ільляшэвіч, У. Клішэвіч, У. Сядура-Глыбінны, М. Вярба, Ю. Віцьбіч / Аўтар-уклад. Л. Юрэвіч. Нью-Ёрк, 1997] // Калосьсе. 1998. № 6. С. 142.

**Крючкова Анна, Амелькевич Дарья.** Фрагменты “Разбитого сердца”: [Пра спектакль па п’есе Т. Уільямса ў тэатры імя Я. Купалы] // Бел. деловая газ. 1999. 14 мая.

**Лашкевіч Жана.** Умовы адзіноты з густам: З нагоды прэм’ернага спектакля “Creve coeur” (“Разбітае сэрца”) Тэнесі Уільямса ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы // Літ. і мастацтва. 1999. 21 мая.

**Лявонава Е. А.** “Ва ўсім павінен быць сэнс”: Чалавек і гісторыя ў рамане другой паловы XX ст. Грэм Грын “Ціхі амерыканец” // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 268–271.

**Лявонава Е. А.** “Ва ўсім павінен быць сэнс”: Чалавек і гісторыя ў рамане другой паловы XX ст. Курт Вонегут “Калыска для кошкі” // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 275–280.

**Лявонава Е. А.** “Я стварыў уласны космас…”: Спроба ўводзін у мастацкі свет Уільяма Фолкнера // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 251–268.

**Лявонава Е. А.** “Які твар у праўды…”: Вывучэнне твораў Джэка Лондана // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 38–48.

**Маракоў Леанід.** Антон Адамовіч: [Пра беларускага літаратара, які жыў і памёр у ЗША] // Голас Радзімы. 1999. 13–20 мая.

**Маракоў Леанід.** “Эпізоды” Яўхіма Кіпеля: [Пра выданне, якое выйшла ў ЗША] // Літ. і мастацтва. 1999. 11 чэрв.

**Минченко Павел, Пушкин Игорь.** Незавершенное кругосветное путешествие длиною в жизнь: Первый президент Гавайев был родом из Могилева // Совет. Белоруссия. 1999. 19 июня.

**Самсонов Петр.** Воспоминание о днях, проведенных в Америке // Нар. воля. 1999. 11, 12, 15–19, 22, 23 чэрв.

**Чубаков Сергей.** "Америка была хорошая страна…": (Перечитывая Э. Хемингуэя) // 7 дней. 1999. 1 мая.

**Braha Symon.** Na Zachad i Uschod: Pra bielaruskuju kulturnuju ekspansyju: [Арт. В. Тумаша, беларускага эмігранта ў ЗША] // Спадчына. 1999. № 2. С. 3–29.

**US Congress** discusses Belarus // Belarus' Today. 1999. May. 4–10.

## • Беларусь – Ізраіль

**Daneiko Elena.** Concerts celebrate independence: [Пра выступленні ў Беларусі ізраільскай артысткі Этан Коген] // Belarus' Today. 1999. May. 4–10.

## • Беларусь – Індыя

**Сабило Светлана.** Индия – Беларусь: отношения безоблачные // Бел. деловая газ. 1999. 26 мая.

## • Беларусь – Ірландыя

[**Жбанков Максим, Федорченко Андрей**]. Нил Джордан, островитянин: Его фильмы заставляют зрителя кричать от восторга или возмущения: [Дыялог пра ірландскае кіно] // Бел. газ. 1999. 17 мая.

## • Беларусь – Іспанія

**Сольдо Даниил.** Снимаем кино. Испанское // Бел. газ. 1999. 21 июня.

## • Беларусь – Італія

**Макиавелли Н.** Государь; Рассуждения о первой декаде Тита Ливия; О военном искусстве: Сборник / Пер. с итал.; вступ. ст. Г. Дельбрюка. Минск, 1998.

**Эка Умбэрта.** Паэтыка адкрытага твору / Пер. з італ. Андрэя Дынько // Arche: Постмадэрнізм. 1999. № 1. С. 41–54.

**Szkudelska Iwona.** O życiu błogosławionego Ojca Pio: Franciszek XX wieku // Głos znad Niemna. 1999. 14 maja.

## • Беларусь – Кітай

**Традиционная** китайская живопись: Каталог выставки. Минск, 1998.

## • Беларусь – курды

**Карлюкевіч Алесь.** Хто ты — чалавек?: Чытаючы прозу Ганада Чарказяна // Маладосць. 1999. № 5–6. С. 225–235.

## • Беларусь – Латвія

**Буры Зянон.** Прэзентацыя кнігі [С. Валодзькі, які жыве ў Латвіі] // Голас Радзімы. 1999. 13–20 мая.

**Жлутка Алесь.** Хрысціянізацыя Лівоніі і рэлігійная сітуацыя ў Полацкіх уладаннях у канцы XII – пачатку XIII ст.: (Паводле "Хронікі Лівоніі" Генрыка Латышскага і тагачасных лацінскіх дакументаў) // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 21–23 красавіка 1997 г. Полацк, 1998. С. 117–124.

**Крузе Армандс.** "Суседзі сварыцца не павінны": Гутарка з віцэ-консулам Латвіі ў Беларусі // Голас Радзімы. 1999. 27 мая-3 чэрв.

**Мірачыцкі Л.** "Я сын той старонкі…": З гісторыі беларускай дыяспары ў Латвіі // Веды. 1999. 18 чэрв.

## • Беларусь – Літва

**Берасцень С.** Уік-энд у Друскеніках: [Пра "Дні маладой музыкі"] // Літ. і мастацтва. 1999. 11 чэрв.

**Гіль Юры.** Дарога ў храм Божы для беларусаў-віленчукоў аказалася вельмі цяжкай // Наша слова. 1999. 19 траўня.

**Мілаш Леакадзія** [Вільнюс]. Жылка Уладзімір. "У маім маленні адзіная ты": Адваротная сувязь // Голас Радзімы. 1999. 10–17 чэрв.

**Мурашка Яўген.** Пашпарт літоўскі, душа беларуская: [Інт. з бел. спеваком і грамадскім дзеячам у Літве] / Зап. Юрася Ляшкевіча // Голас Радзімы. 1999. 13–20 мая.

**Петропавловский Николай.** Дорога с двусторонним движением: [Інт. з паслом Літоўскай Рэспублікі Іонасам Паслаўскасам] // Совет. Белоруссия. 1999. 16 июня.

**Сасноўскі Дзмітрый.** Пра ідэнтыфікацыю тэрміна "літва" ў канцы XII–XIII стст. // Бел. гіст. часоп. 1999. № 2. С. 12–13.

**Сауліч Уладзімір.** А за Браславам — граніца!.. [з Літвой] // Бел. думка. 1999. № 6. С. 113–117.

## • Беларусь – Нарвегія

**Лявонава Е. А.** "Жыць — значыць з тролямі весці змаганне…": Жыццё і творчасць Генрыка Ібсена // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 49–57.

**Лявонава Е. А.** "Залатая цемра пераліваецца ўва мне…": Псіхалагізм Кнута Гамсуна: вытокі і паэтыка // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 58–75.

**Юнчик Леонид.** Настоящие друзья познаются в беде: [Пра знаходжанне нарвежскіх навукоўцаў у Мінску] // Рэспубліка. 1999. 4 мая.

## • Беларусь – Польшча

**Блинова Тамара.** Первый этап деятельности иезуитов // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 21–23 красавіка 1997 г. Полацк, 1998. С. 40–54.

**Васілеўскі Пётра.** Вельмі беларуская польская п'еса: ["Палын" у рэпертуары Тэатра Восьмага Дня] // Літ. і мастацтва. 1999. 18 чэрв.

**Груца Аляксей.** Пра ўзаемадзеянне беларускай і польскай моў на ўзроўні фразеалогіі // Род. слова. 1999. № 5–6. С. 62–69.

**Грыцкевіч Анатоль.** Беларускія карані радаводу Міцкевічаў // Спадчына. 1999. № 2. С. 143–162.

**Дубянецкі Эдуард.** Каштоўная крыніца нашых ведаў і аптымізму: [Рэц. на: Беларуская думка XX стагоддзя: Філасофія, рэлігія, культура (анталогія). / Уклад., прадм., апрац. Юрыя Гарбінскага. Варшава, 1998] // Голас Радзімы. 1999. 13–20 мая.

**Зямкевіч Р.** "Студыяваў я іх пільна…": Лісты [з Варшавы] Рамуальда Зямкевіча да Вацлава Ластоўскага // Літ. і мастацтва. 1999. 4 чэрв.

**Кавалёў С. В.** Берасцейскі паслядоўнік Яна Каханоўскага: [Пра Пятра Стаенскага] // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 4. 1999. № 1. С. 17–21.

**Кавалёў Сяргей.** Пратэй, брат Сатыра: [Пра паэму на польскай мове брэсцкага аўтара П. Стаенскага] // Спадчына. 1999. № 2. С. 110–124.

**Кулікова Святлана.** Новае гучанне "Новай зямлі": [Інт. з перакладчыкам Чэславам Сэнюхам] // Чырв. змена. 1999. 20 мая.

**Лявонава Е. А.** "Божы светач жывых пакаленняў": Пра творчы шлях Марыі Канапніцкай // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 102–107.

**Лявонава Е. А.** Каралева жывога слова: Пра творчасць Элізы Ажэшкі // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 75–88.

**Лявонава Е. А.** Магія таленту: Гісторыя і сучаснасць у творчасці Генрыка Сянкевіча // Лявонава Е. А. Плыні і постаці. Мн., 1998. С. 89–102.

**Мацкевіч Станіслаў** [Цат]. Дом Радзівілаў / Уступ і перакл. з пол. Вацлава Арэшкі // Спадчына. 1999. № 2. С. 192–214.

**Падокшын Сямён.** Гісторыя ад Мацея: Спроба "Палітычнай рэабілітацыі" гісторыка М. Стрыйкоўскага // Літ. і мастацтва. 1999. 18 чэрв.

**Полуцкая Нина.** Как усмирить белорусских поляков // Бел. деловая газ. 1999. 26 мая.

**Станкевіч Станіслаў.** Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі: [Пра творчасць Адама Міцкевіча] / Пер. Міколы Хаўстовіча // Спадчына. 1999. № 2. С. 125–142.

**Сычова Ірына.** Валенцій Ваньковіч: Старонкі творчасці // Род. слова. 1999. № 5–6. С. 140–149.

**Тубэк Агата, Сівэк Адам.** "Будзем наладжваць двухбаковыя сувязі": Беларуская філалогія ва універсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне // Голас Радзімы. 1999. 13–20 мая.

**Улащик Н.** Записки Федора Евлашевского и Яна Цедровского // Улашчык Мікалай. Працы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі: З рукапіснай спадчыны. Мн., 1999. С. 61–75.

**Улащик Н.** Публикации в буржуазной Польше: Акты Унии // Улашчык Мікалай. Працы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі: З рукапіснай спадчыны. Мн., 1999. С. 5–6.

**Ян Чачот, Ігнат Дамейка,** сябры і паплечнікі Адама Міцкевіча: Матэрыялы 3-х і 4-х Карэліцкіх чытанняў (1996, 1997) / Навук. рэд. А. Мальдзіс; рэд. Н. Давыдзенка. Мн., 1998. Беларусіка = Albaruthenica. Кн. 10.

**Alexandrowicz Stanisław.** Kartografia Wojskowa Wielkiego księstwa Litewskigo do połowy XVII wieku // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 21–23 красавіка 1997 г. Полацк, 1998. С. 20–25.

**Iwanowski Witold**. Zniszczenie pomników Wieszcza: Zemsta: [Пра абеліск А. Міцкевічу ў Завоссі, знішчаны немцамі ў 1944 г., і бюст у Снове, знішчаны бальшавікамі ў 1939 г.] // Głos znad Niemna. 1999. 4 czerw.

**Kaniuk Natalia**. Od polskiej Szkoły nr 6 im. Królowej Jadwigi do białoruskiej Szkoły nr 2 im. Olgi Sołomowej w Grodnie: Historia naszej szkoły // Głos znad Niemna. 1999. 7 maja.

